PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 31 (2099) Год XLI Беласток 4 жніўня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

Міра Лукша

# Лёс такі

**Янку Грыцука з Валілаў у 1947 г. забіў сябра з АК, тры тыдні пасля вяселля з Нінай Нігерыш. Ніна восем гадоў адсядзела ў турме за смерць свайго другога цесця, Міхалкі Вакулы. Муж, Сцяпан, чакаў яе, два гады яшчэ пажылі разам. Шаснаццаць гадоў Ніна Вакула жыве адна на хутары ў Калёніі Меляшкі. Адна, але не адзінокая.**

Кажуць, Калёнія Меляшкі ўжо на канцы свету, а хутар Ніны Вакулы яшчэ далей, сярод ніў і лугоў. Акуратны падворачак, дагледжаныя тры соткі, якія ёй асталіся ад гаспадаркі — пенсіянерка ўжо яна. Але баба Ніна выглядае прыгожа, „каб тую скуру скараціць", то не даў бы ёй і пяцьдзесят. А ў жыцці нажылася...

Першае маё пытанне да Ніны Вакулы — пра тое, ці не пашкодзіла ёй, што ў „Ніве" чвэрць веку таму выступіла ў сваёй гісторыі пад сваім прозвішчам. Так, газета не павінна так рабіць, але не крыўдуе яна на Міхася Хмялеўскага, што праўдзіва апісаў яе гора.

Першы раз спаткаліся мы, калі Калёнія Меляшкі святкавала пасвячэнне крыжа, які аздобілі абліччамі святых сябры „Зоркі". „Дай нам, Божа, згоду, еднасць і зразуменне" — так на ім напісана. Штогод абяцаюць сабе збірацца тут жыхары і сваякі, бо папраўдзе іншае нагоды ў вёсцы няма — ні вяселля, ні хрысцін, толькі, не дай Бог, усё мярліны, а што гэта за нагода для беседы... Ано сум находзіць на чалавека, што ён наступным будзе...

На „вялікай хаце" ў Ніны вісяць два партрэты — Янкі і Сцяпана. Двух, якіх яна пакахала, якія яе выбралі.



*Сцяпан Вакула чакаў Ніну ўсё жыццё.*

### Спаў у адным ложку з акаўцам

— Паняй была б у Беластоку, калі б не тая гісторыя... Янка ў час вайны быў партызанскім сувязным. Па вайне дзядзька забраў яго ў Беласток. Які ж быў добры мой Янка, харошы... 7 студзеня 1947 мы павянчаліся. Пасля якраз выбары былі, „тры разы так", мой Янка не мог прыехаць... Тры тыдні не бачыліся. А кім ён там быў у Беластоку — звычайным вартаўніком у браме павятовай „бяспекі". Вядома, усе маладыя хлопцы з нашых вёсак, калі траплялася праца ў горадзе, то ішлі. Ці ён там ведаў, што то „убэ", ці ўсё іншае. Прынялі на працу, то і стаяў у той браме. Яшчэ і кватэры не меў, у дзядзькі жыў. Прыязджаў да яго сябра з Пяшчанік, нават у адным ложку з ім спалі тады. Той Раман яго і забіў, у бандзе быў... Прыехаў Янка ў Валілы на падвясёлак, сядзелі мы за сталом пасля вячэры, брат пайшоў у вёску. Хтось пастукаў у дзверы. „Otwieraj, to twoi koledzy z UB przyjechali!" Бяда, кажа Янка, банда ў вёску прыехала! Згасілі мы святло, бацька з маткай пабеглі ў спальню. Выглядаю ў акно, а ўся вуліца ў конях, фурах. Што гэта будзе! Янка меў з сабою пяцістрэльны пісталет, з чым вартаваў браму, і з сорак патронаў. „Буду бараніцца, — кажа, высыпаў патроны, — а ты мне падавай". А тут джаджараг! — ужо адзін улазіць цераз акно. Трапіў Янка яго ў нагу, той зваліўся за акно, падабралі яго калегі. Ксенжык, іхні камандзір, з Пяшчанікаў, даў тады загад зніштчыць усё ўшчэнт. Людзі, якое было пекла! З аўтамата на ножках секлі нізка, пад вокны. Маці ранілі ў абедзве ногі, бацька страціў прытомнасць. Янку забілі адной куляй у галаву. Чую віск цешчы, у галаве мне б'ецца: „Ну, усё, замэнчаць!" Спачатку хацела я ў печ улезці, у комін, але плечы не прайшлі. Хлеў быў разам з хатай, драбіна ў сенцах, пралезу, думаю, на гарышча, узлезу на дах, на хляве падыму дахоўку, скачуся ў снег і папаўзу за стадолы... Толькі заварушыла я дахоўку, чую: „Першыя гранаты кідай у стадолу, потым на хлеў, адразу і хата загарыцца". Я з тых вышак і бабухнула ўніз галавою ў камору, і памяць страціла. Прачнулася, а тут што за *відзядло*, усюды аж бела, шугае агонь. Устала. Наўкол цішыня, толькі агонь гудзе. А ў клуні збожжа было яшчэ немалочанае, сена, усё ў высокім полымі стаіць. Тут каровы зараўлі, закрычаў конь. Пабегла я ў хату. Ванька, Ванька, калачу, а ён не варушыцца. Свякроў толькі стогне, свёкар ляжыць без памяці. Скаланула я яго, а ён вочы адплюшчыў: „А што гэта такое?!" — „Тату, бяжэце, выпускайце кароў і каня, ратуйце іх! Авечкі і свінні ўжо згарэлі!" Бацька вывалак каня за вуздэчку, выцягнуў кароў. А ўва мне ўсё замерла. Не плачу. Вынесла я Янку на снег, вывалакла матку. І ўсё-ўсянютка павыцягала з хаты, што там было... Ды і што там было тады ў людзей, ніякага багацця — дзеравяныя ложкі, лава, табурэтка... Суседзі спачатку сталі былі бегчы нас ратаваць, але бандыты пусцілі ў іх чаргу з аўтамата, то і адступіліся, глядзелі здалёк.

Так, гэта быў той Раман, сябра Янкаў, а той з перастрэленай нагой таксама з Пяшчанік быў. Разам з ім у ложку ў Беластоку спаў, калі прыязджаў. Як роднага брата яго Янка прымаў, і дзядзька таксама. Судзілі іх пасля, яны з банды „Słoneczka" былі. Рамана засудзілі на 10 гадоў. Павыходзілі ўсе даўно. З ляску прыйдзе, але з пяску не прыйдзе чалавек...

Забрала я свёкраў да сябе — і Янкавага брата з бацькам, кароў, каня, маці яшчэ год у шпіталі з прастрэленымі нагамі ляжала. Хацелі, каб я з імі асталася. Не, успаміны мяне забівалі. Калі свякруха паправілася, вярнулася я да сваіх бацькоў.

### Сцяпан чакаў

Сцяпан Вакула думаў пасля войска ўзяць мяне за жонку, але я закахалася ў Янку, і вось які лёс быў... Дачакаўся, выйшла я за яго замуж. Добры чалавек быў. Добра з ім жылося. Вядома, пасля перажытага нервы ў мяне ліхія сталі. Сцяпан гэта разумеў. Акрыяла я пры ім. З намі жыў цесць, Міхалка Вакула. Не быў ён кепскі чалавек, але шмат піў. Гарэлкі было мора па вёсках, усе гналі самагонку ў карчах. Браў цялят Міхалка, жарабят гадаваць, усё прапіваў, а нам прыходзілася ўсё гэта пракарміць. Заколем вепрука, мяса, кумпякі пасолім, павэндзім, то цесць усё павыносіць з каморы, то ў хляве, то ў стадоле пахавае, каб сабе на закусь мець. І ўчэплівы да ўсіх быў, але ж шмат што па вёсках было такога, то за мяжу сварыліся, то за што іншае, за чубы браліся, па судах валачыліся. Нас таксама ў суд Сцяпанаў бацька падаў, каб яму аліменты плаціць, хоць меў пяцёра дзяцей, па ўсёй Польшчы, некаторыя нават багата жылі (адзін, напрыклад, штэйгерам у шахце працаваў), а хацеў, каб мы яго ўтрымлівалі. Вядома, на адной гаспадарцы, усё ж супольнае. Праўда, заядаў ён мяне, бо хоць рукі сабе адрабляла, то ўсё крычаў, што я тут нічога не значу, а ўсё яго. Але, асабліва да яго нічога не мела, старалася прамаўчаць. От, меў такі характар той чалавек, на старасць такога не зменіш, што для яго нішто не было важнае, ні сям'я, ні гаспадарка, толькі каб напіцца што было.

### Я яго не забіла!

Я раней ніколі ў судзе не была. Сказала праўду, што ішла ўвечары, ліў дождж. Я вярталася з хрысцін у Меляшках. Размаўляла са свёкрам? Так. Пасварыліся. Кажа мне, а п'янюсенькі, што ісці не можа, каб я з яго завяла дахаты. Сядзеў на лавачцы, падперты сваёй пластмасавай палачкай. „А начуйце там, дзе пілі! Да чаго дайшло, каб я вас яшчэ валакла дахаты? Хопіць з мяне здзекавацца!" Давай ён мяне лаяць, замахнуўся на мяне куляскай, я вырвала яму тую палачку з рукі, трэпнула па плячы, забралася ды пайшла. Ну, забіць я ж не магла яго, а *беглы* сказаў, што пабілі яго чымсьці металёвым. Ці я нешта такое несла б з Меляшкоў, або ноччу, у дождж, шукала якога жалезіва на вуліцы, каб таго няшчаснага п'янічку забіваць? Або ці я яго спадзя-

***(працяг на стар. 10)***

# Мы прачыталі

*Koalicja SLD—PSL rozpada się przeciętnie raz na kwartał. Rozpada się od początku swego istnienia — po wrześniowych wyborach 1993 r. Koalicja rozpada się zazwyczaj głośno i spektakularnie według jednego scenariusza: najpierw Pawlak i jego koledzy dystansują i krytykują SLD, socjaldemokraci kontrują, przeważnie strasząc odebraniem stanowisk. Ludowcy w końcu coś wytargują — nowe posady, dotacje i z obu stron dalej płyną zapewnienia o partnerstwie, konieczności dialogu i woli trwania. Ostatnio w szeregach KPN, BBWR i PSL zrodził się pomysł odwołania ministra Kaczmarka za arogancję i pobłażliwy uśmiech z posłów PSL. Wydaje się jednak, że ów uśmiech ministra ludowcy znosiliby jeszcze jakiś czas, gdyby socjaldemokraci nie zaczęli robić porządków w ich kasie czyli Banku Gospodarki Żywnościowej. PSL boi się, że SLD przygotowuje skok na ich kasę. Ludowcy w nowych radach nadzorczych banków nie mogą odnaleźć swoich ludzi. Trwa walka o każdy stołek. PSL okrzyczana partią pazerną zorientowała się, że ich konfitury wybiera kto inny. Ale tak się robi politykę.*

*Polityka, nr 28*

* * *

*Prezydent Białegostoku zarabia 55 mln zł, wiceprezydenci zarabiali do czerwca br. po 30 mln, a członkowie zarządu po 25 mln. Od lipca nastąpiła podwyżka płac prezydenta o 30 proc.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 161*

* * *

*Osoby dobrowolnie pozostające latem w miastach utraciły instynkt samozachowawczy. Koktajl związków z rur wydechowych samochodów w połączeniu z nasłonecznieniem wzmaga reakcje chemiczne, zamienia miasta w getta dla samobójców.*

*Wprost, nr 28*

* * *

*Значнай дэвальвацыі беларускага рубля, якой чакаюць многія ў бліжэйшы час, не адбудзецца.*

*Голас Радзімы, н-р 27*

І гэта добрая вестка, бо абазначае, што гаспадарка Беларусі развіваецца. Падобная сітуацыя была ў Савецкім Саюзе ў час Брэжнева, калі за аднаго рубля можна было — фармальна — набыць 2 долары. Іншая справа, што 99% грамадзян Саюза не ведала, як выглядае долар.

* * *

*To widzowie tworzą teatr. Teatr sam z siebie nie tworzy niczego. Możemy udawać, że robimy wielką sztukę, ale przychodzi premiera i widzimy, że na widowni siedzi pluton wojska i trzy zziębnięte kurwy — to wszystko. Ale czy to jest teatr,* — сказаў Багуслаў Лінда.

*Polityka, nr 27*

* * *

*Na tegoroczny Festiwal Kołobrzeg'96 przyjechał generał Leon Komornicki, zastępca szefa Sztabu Generalnego. Wyjechał obrażony. Lider zespołu Emigranci Marek Hoja w hełmie z orzełkiem śpiewał bowiem:*

*Jeszcze dzień, wyjdę stąd,*
*rzucę bagnet, rzucę broń.*

*Kiedy Marek Dyjak, były bokser, ochrypłym głosem rozpoczął pierwszą zwrotkę „Żołnierzyki i laleczki", twarze oficjeli skamieniały.*

*Chodźmy pobawić się troszeczkę,*
*ja w żołnierzyka, ty w laleczkę,*
*żołnierzykowi się należy,*
*a i laleczka lubi przeżyć.*

*Rzecz dotyczyła przygód żołnierza z perwersyjną kurewką. Wojsko w piosence Dyjaka to osikane bramy, gdzie żołnierze obalają wino i pościgi sokistów za rezerwistami.*

*Chwilę wcześniej Piotr Bukartyk prezentował swój postulat nowej konstytucji. Postulat szczególny:*

*Każdy ma prawo do orgazmu*
*orgazm to fala entuzjazmu.*

*Obecny na widowni były premier Józef Oleksy uśmiechał się gdy Piotr Bukartyk śpiewał o rozterkach agentki KGB.*

*Wiera wie, że być agentką*
*nie przestaje się tak prędko.*
*Jedną rączką go rozbiera,*
*drugą grzebie mu w papierach.*

*Była też piosenka „Do NATO, do NATO, zapoznam cię z moją armatą", ale starsi widzowie z rozrzewnieniem wspominali dostojne teksty Janusza Przymanowskiego, Jerzego Wasowskiego i Wojciecha Młynarskiego śpiewane przez gwiazdy polskiej estrady.*

*W braterstwie ognia z armią Kraju Rad*
*żołnierz wywalczył cię od nowa*
*i w ogniu wykuł granic kształt*
*i stała się wielka rzecz — Polska Ludowa.*

*Gazeta Wyborcza, nr 158*

* * *

*Po remoncie przeprowadzonym w Miejskiej Bibliotece Publicznej w Hajnówce wydawało się, że wszystko będzie cacy. Ale nie, nie ma tak.*

*Gazeta Hajnowska, nr 1*

Спачуваем, што не ўсё ў Гайнаўцы „сасу" і вiншуем жыхароў горада з выхадам новай газеты.

# З мінулага тыдня

**Міністр замежных спраў Дарыюш Расаці** пасля сустрэчы ў Брэсце кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў Беларусі, Польшчы і Украіны назваў яе „брэсцкім трохкутнікам". Прызнаў ён мэтазгоднасць рэгулярнага наладжвання такога роду сустрэч і заявіў гатоўнасць стаць гаспадаром наступнага спаткання. Міністры замежных спраў: Беларусі — **Уладзімір Сянько** і Украіны — **Генадзь Удавенка** выказаліся за працягваннем трохбаковых сустрэч.

**Збігнеў Буяк** — намеснік старшыні Уніі працы, пабываў на Беласточчыне і быў госцем „Басовішча-96". Лідэр УП сустрэўся таксама з дзеячамі Беларускага саюза. У ходзе сустрэчы абмяркоўваліся пытанні надыходзячых парламенцкіх выбараў.

**Заявы ад асоб пацярпелых ад III Рэйха** аб прызнанні фінансавай дапамогі з Фонду „Польска-нямецкае прымірэнне" будуць прымацца толькі да 30 верасня г.г. У паўночна-ўсходнім рэгіёне дапамогу для пацярпелых ад гітлераўскага рэжыму атрымала ўжо 483 тысячы асоб (на агульны лік 700 тысяч заяў).

**У Беластоку** ствараецца тэрытарыяльнае аддзяленне **Таварыства народжаных у нямецкай няволі**. У Польшчы працуе ўжо 15 такіх аддзяленняў, якія гуртуюць тых, што нарадзіліся і выхоўваліся ў палоне ў III Рэйху. Члены таварыства могуць хадайнічаць аб фінансавай кампенсацыі і матэрыяльнай дапамозе.

**Беластоцкае таварыства агратурызму**, якое заснавалася нядаўна ў Беластоку, будзе прапагандаваць ідэю вясковага адпачынку і дапамагаць сялянам арганізаваць турыстычныя паслугі. У Беластоцкім ваяводстве агратурызмам займаюцца галоўным чынам сяляне, якія летам наймаюць турыстам кватэры, забяспечваюць іх харчаваннем і турыстычнымі прыладамі, прадаюць ім сельскагаспадарчыя прадукты.

Беластоцкі кампазітар **Роберт Панэк** стварыў марш „Vivat Atlanta" для духавога аркестра. Гэты музычны твор выконваўся ў горадзе XXVI Алімпійскіх гульняў.

Два вершы беластоцкай паэткі **Крыстыны Канэцкай** былі змешчаны ў анталогіі „Olympoetry-96-Atlanta", выдадзенай з нагоды сёлетніх Алімпійскіх гульняў.

**У Рыбаках** над Нарвай адбыўся семінар, прысвечаны крыніцам фальклору. Яго арганізатарам выступіў фонд „Музыка крэсаў" з Любліна. У ходзе мерапрыемства выступалі дзіцячыя калектывы з Беларусі, Польшчы і Літвы.

**Фірма „Polser" з Сямятыч** — адзін з самых буйных вытворцаў сыру — паўстала тры гады таму і стварылі яе Акруговы малочны кааператыў і трох амерыканскіх інвестараў. Фірма выпускае 30 тон сыроў у суткі, а 90% прадукцыі прадаецца на заграніўных рынках (ЗША, ПАР, СНД). Цяпер вядуцца перагаворы амерыканцаў з французскім канцэрнам Besnier аб продажы паёў. Дырэктар фірмы **Аляксандр Рожук** лічыць, што змена галоўнага пайшчыка, якая можа адбыцца ў любы момант, можа толькі паўплываць на павелічэнне асартыменту экспартнай прадукцыі.

**Два жыхары вёскі Гуркі** Крынскай гміны напалі на грамадзян Беларусі. Палякі (21 і 26 гадоў) прытаіліся каля вёскі Плебанова, спынілі машыну, на якой ехалі турысты, і, прытварыўшыся супрацоўнікамі пагранічнай аховы, правялі „вобыск", у выніку якога забралі ў беларусаў радыёлу, валюту і 300 тысяч рублёў.

# Весткі з Беларусі

**Брэсцкі трохкутнік**

20 ліпеня ў Брэсце прайшла рабочая сустрэча кіраўнікоў знешнепалітычных ведамстваў Беларусі, Польшчы і Украіны. Падчас перамоў міністры абмеркавалі канкрэтныя праблемы развіцця супрацоўніцтва ў рамках трансгранічнага саюза Еўрарэгіён Буг. Асноўная мэта гэтага праекта — наладжванне больш цеснага супрацоўніцтва прыгранічных абласцей Беларусі, Польшчы і Украіны ў эканамічнай, культурнай, экалагічнай і іншых сферах. Бакі абмяняліся таксама думкамі па актуальных пытаннях еўрапейскай бяспекі, абмеркавалі пытанні супрацоўніцтва ў міжнародных арганізацыях, у тым ліку ў рамках Цэнтральнаеўрапейскай ініцыятывы, паўнапраўным членам якой Беларусь стала сёлета ў маі.

**Першая Алімпіяда**

158 беларускіх спартсменаў занялі 15 ліпеня свае месцы ў алімпійскай вёсцы ў Атланце. Для Беларусі XXVI Алімпійскія гульні гістарычныя — упершыню выступіла яна асобнай камандай. Напярэдадні ад'езду зборную рэспублікі прыняў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які пажадаў выступіць прыгожа, незалежна ад таго, як складзецца спартыўная барацьба.

**Прэзідэнцкія парадкі**

Пасля рабочай паездкі прэзідэнта Лукашэнкі ў Бабруйск адбылася нарада кіраўніка дзяржавы з акцыянерамі таварыства „Фандок". У выніку сустрэчы ад займаемых пасад былі вызвалены шэраг кіруючых работнікаў гэтага прадпрыемства, а камбінат зноў стаў дзяржаўнай уласнасцю. Такое рашэнне прынята ў сувязі са складаным становішчам на вытворчасці. Для арганізацыі выпуску прадукцыі прэзідэнт прыняў рашэнне аб выдзяленні калектыву крэдыту ў 50 млрд. руб. на льготных умовах. Да 1 верасня плануецца ліквідаваць запазычанасць па заработнай плаце.

**Рэцыдыў сацыялізму**

Як правал расцэньваюць спецыялісты Віцебскага аблаграпрама вынікі корманарыхтоўкі ў 29 калгасах і саўгасах вобласці. З першага ўкосу траў нарыхтавана менш за 5% кармавых адзінак на ўмоўную галаву жывёлы. Калі такое ж адбудзецца і з атавай, то ўжо на пачатку зімоўкі многім жывёлам пагражае лёс саправуды ўмоўных галоў. Між тым, узмацненне дзяржаўнага патрабавання да калгаснага сектара сельскай гаспадаркі ўжо справакавала рэцыдыў хваробы сацыялізму — прыпіскі. Скажэнне справаздачнасці выяўлена ў шэрагу раёнах Віцебшчыны.

**Кольскі ў Менску**

Сустрэчу з вядомым польскім рэжысёрам Янам Якубам Кольскім арганізаваў Польскі інстытут у Менску. Паказ адбыўся ў кінатэатры „Перамога" ў днях 17—20 ліпеня. Гледачы мелі магчымасць пaглядзець стужкі „Янцё-воднік", „Цудоўныя мясціны", „Пахаванне бульбы". Гэтым фільмам характэрны складаны лёс яго герояў і імкненне пераадолець перашкоды на сваім шляху. Такімі людзьмі сталі дзед-вандроўнік, ксёндз, рымар.

**Магутны Божа**

Вялікім канцэртам закончыўся ў Магілёве Міжнародны 86 фестываль „Магутны Божа", які праходзіў тут чацвёрты раз. Гледачоў і журы літаральна пакарыў выканаўчым майстэрствам мужчынскі хор „Кафедра" з Казані. Гэты калектыў заваяваў Гран-пры і пераходны прыз, які перадаў яму леташні пераможца — Дзяржаўны хор Беларусі імя Цітовіча. Першае месца і званне лаўрэата прысуджаны камернаму хору Гродзенскай капэлы, маладзёжнаму ансамблю „Рамэа і Жульета" з Баранавіч, хору менскай царквы Іконы Божай Маці „Усіх смуткуючых радасць", дзіцячай студыі „Дружба" горада Цвер і салістцы Гаянэ Касцян з Львова. Апрача традыцыйнага высокага выканальніцкага ўзроўню, на фестывалі трэба адзначыць два моманты. Па-першае, у ім прынялі ўдзел прадстаўнікі праваслаўнай канфесіі, а па-другое, магілёўская ўлады сарвалі уверцюру фестывалю — выступленне беларускіх рок-калектываў.

**Новая электрастанцыя**

У Беларусі плануецца будаўніцтва новай цеплаэлектрастанцыі ў горадзе Зэльва Гродзенскай вобласці. Яна будзе будавацца за кошт замежных інвестыцый. У праекце ўдзельнічаюць: расейскі „Газпрам", нямецкае прадпрыемства „Тройсэнэлектра" і беларускае „Гродэнэрга". Магутнасць станцыі складзе каля паўтара мільёна кілават.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Рускія і беларусы на Беласточчыне.**
- **Чаму людзі цяпер такія агрэсіўныя** — разважае Ірэна Лукпа.
- **Час бежанства ва ўспамінах Андрэя Кучкі з Гацькоў.**

# Безгаспадарная дарога

Кузаўцам найбліжэй дабірацца ў Кляшчэлі праз урочышча Гарэлі. Ад незапамятных часоў карысталіся гэтай дарогаю і жыхары суседняй Волькі-Тэрахоўскай, едучы на кляшчэлеўскі кірмаш, каб прадаць свае бандарныя вырабы, і жыхары Чаромхі-Станцыі і Ставішчаў, каб прадаць вепручка ці купіць нешта патрэбнае для сваёй гаспадаркі. Даўней трэба было корпацца ў пяску ў летні час, а ў балоце вясною ды восенню. Зімою дарога была зусім непраезная, паколькі ляжалі тут гурбы снегу.

Праходзіць час і змяняецца ўсё навокал — і людзі, і прырода. Урочышча Гарэлі зараз цяжка пазнаць. Няўгоддзі парaслі шумлівыя бярозы ды вечназялёны малады сасняк. Пясок утаптаўся, балота высахла. Засталіся толькі калдобіны. Гэтай дарогаю карыстаюцца надалей людзі. Бяда ў тым, што за калдобінамі нельга праехаць. І гэта вялікая праблема таго, хто зараз тут ездзіць.

Гарэлеўскі гасцінец знаходзіцца амаль у 90% на тэрыторыі Кляшчэлеўскай гміны, карыстаюцца дарогаю аднак жыхары суседняй Чаромхаўскай гміны. Нядаўна ўдзельнічаў я ў размове Лявона Карпінскага (аднавяскоўца) з войтам Чаромхаўскай гміны.

— Пашліце нам грэйдэр, — просіць Карпінскі войта. — Няхай выраўняе нам дарогу.

— Гэта на іншай тэрыторыі.

— Ды як жа гэта?..

— Трэба ў Кляшчэлеўскую гміну звяртацца з прашэннем, — паясняе войт.

— Аднак цяжка будзе вам дамовіцца з бурмістрам, паколькі ў Кляшчэлях і так не хапае на ўсё фінансавых сродкаў.

І так вось кузаўцы апынуліся ў тупіку. А ўсяму віноўная безгаспадарная дарога, якая, відаць, апрача маіх аднавяскоўцаў нікому непатрэбная. Не адзін з чыноўнікаў мясцовага самаўрада скажа, што можна ў Кляшчэлі праехаць праз Рэпчыцы ці вёску Чаромху па новай гравейцы. Аднак гэта намнога далей.

На маю думку, чаромхаўскі войт павінен дамовіцца з кляшчэлеўскім бурмістрам і памагчы вырашыць праблему дарогі патрэбнай не толькі кузаўцам. Тым больш, што не патрэбны тут вялікія грошы. Хопіць праехаць грэйдэрам і выраўняць чатыры кіламетры дарогі з Кузавы (ад чыгуначнага віядука) да даўнейшага ПОМу і назад. А мо кампетэнтныя чыноўнікі дамовяцца з Надлясніцтвам Бельск-Падляшскі і гэтыя падашлюць машыну для рамонту дарогі. Урочышча Гарэлі, гэта ж таксама тэрыторыя Лясніцтва ў Кляшчэлях.

Варта аб гэтым падумаць паважаныя начальнікі.

**Уладзімір Сідарук**

Станіслаў **Валодзька**

## * * *

Тая вёсачка за лесам
Ледзь знаёмай мне была.
Папрасіў вады.
Бабуся
Малака мне наліла.

Скуль я, чый я — запытала
І ўздыхнула:
— Вось бяда:
Ўжо зусім нямоглай стала
А кароўку грэх прадаць.

Сенаваць не едуць дзеці.
Ды на край зямлі зусім
Іх занёс аднойчы вецер,
Што дабрацца цяжка ім.

А адзін — памёр. Вось гора.
Той бы, пэўна, памагаў...

Падкаціў камяк пад горла. —
Малаком я ледзь прагнаў.

# Фэст у Сямятычах

21 ліпеня ў маляўнічым амфітэатры ў Сямятычах адбыўся беларускі фэст, арганізаваны ГП БГКТ. Мерапрыемства адкрыў бурмістр Сямятыч Анджэй Каханьскі, які сардэчна прывітаў пасла Сейма Станіслава Малішэўскага і ўсіх прысутных, якіх прыйшло даволі многа. З кароткай прамовай выступіў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. У канцэрце беларускіх мастацкіх калектываў, які вяла сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, выступілі: хор Гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, калектыў з Чыжоў „Чыжавяне", трыо з Мельніка і жаночы хор з Козлікаў.

Нягледзячы на даволі халоднае надвор'е, выступленні беларускіх мастацкіх калектываў успрымаліся вельмі цёпла. На заканчэнне канцэрта В. Ласкевіч падзякавала гарадскім уладам за дапамогу, асабліва фінансавую, у правядзенні фэсту.

Падпісвалі тут свае кніжкі беларускія пісьменнікі Васіль Петручук, Янка Целушэцкі і Віктар Швед. Зацікаўленне кніжкамі было слабое, а людзі тлумачыліся тым, што не ўмеюць чытаць па-беларуску, затое любяць яшчэ слухаць беларускія песні, аб чым сведчыць паспяховы продаж касет беларускіх мастацкіх калектываў Беласточчыны.

Варта прыгадаць, што ўсе ўдзельнікі выступаючых на фэсце мастацкіх калектываў сагрэліся ў абедзенную пару гарачым смачным гарохавым супам з палявой вайсковай кухні.

# ... і ў Слохах-Аннапольскіх

Вялікая прыгарадная вёска з беларускім насельніцтвам прыняла беларускія мастацкія калектывы на абшырным пляцы былога сельгасгуртка. Фэст адкрыў войт Сямятыцкай гміны Эдвард Зарэмба, падкрэсліваючы патрэбу арганізавання таго роду мерапрыемстваў.

Выступалі пераехаўшыя з Сямятыч беларускі хор з Беластока, „Чыжавяне", трыо з Мельніка і хор з Козлікаў.

Пасля канцэрта Валянціна Ласкевіч падзякавала спонсарам з гміннай управы за фінансавую дапамогу ў правядзенні фэсту.

Гасцінныя гаспадары запрасілі ўдзельнікаў мастацкіх калектываў на пачастунак і танцавальную вечарыну.

**В. Ш.**

Мар'я **Пень**

## Коля з Тафілаўцаў

Гарачыня; схаваюся ў цень тапалі.
Успамінаю працу Рыбака Колі.
Хворую доўга гадаваў,
Варыў, пратаў, падаваў.
Знаў ён і па гэтым трудзе,
Што „сей збожжа, то хлеб будзе".
Сеяў і камбайнаваў.
П'яніц і гультаёў усюды паканаў.



# Вяселле і хрысціны

## ва ўспамінах Веры Канoньчук

Напачатку былі *допыты*. Дагаварваліся бацькі маладых: які пасаг і ўсё другое. Калі ўсё добра, згодна, дагаварыліся значыць, тады ўжо ішлі *дівоснубы*, найбліжэйшыя родныя хлопца. Абмяркоўвалі яны, што і як, пілі цэлу ноч і *на додню* вярталіся са спевамі. Гаварылі людзі: *О, дівоснубы ідут, бо співают.*

А як вяселле было і звянчаліся, тады госці прыходзілі ў дом маладухі, сядалі за сталы, а *посторуонніе*, тыя што бліжэй у вёсцы, падходзілі і стаялі за парогам. Старшы сват *крае коровай*, а дружка спявае:

*Коровай рыэжэ,*
*В его з носа ліэээ,*
*Его свашка кратае,*
*Чуом носа нэ ўтірае,*
*Чуом носа нэ ўтірае.*

А тыя за парогам таксама ўсяляк спяваюць. Тады дружка выразае з каравая *гуску*, бо на караваі дзве *гускі* былі, і кідае за парог. А там іх лапаюць...

Калісь лыжак і талерак не было; палажаць кусок мяса на паўмісак і дружка рэжа, і каравай рэжа. Стаўлялі водку. Як у мяне было вяселле, то 80 *бутэлькоў* паставілі; *купованай*, бо тады яшчэ свае не гналі — толькі пасля. (Я то яе папарабіла, няхай яна адубее; і ў Беласток вазіла прадаваць, ведаеце — тры *дізўчыны*, а трэба ж *убратіся*.) А тады быў толькі адзін кілішак і так па чарзе адным кілішкам пілі. Пакуль дойдуць да апошняга, то ўжо і на паўмісках мала застаецца. Адны ўжо наядзяцца, а другія галодныя чакаюць таго кілішка. А мяса рукамі бралі. Быў адзін паўмісак з мясам на стол, а сталы былі тры. Былі паўміскі і з каўбасаю, і з грэцкай кашай, закрашанай скваркамі, і з хлебам, і з сырам. Помню, як раз прывезлі свежы сыр з Нарвы, проста з-пад цэнтрыфугі. Пасля з-за стала ішлі ў такі другі дом гуляць. Музыканты граюць — прыгожа; а яшчэ часамі як скрыпка!..

Пасля забавы прыходзілі на вячэру, на якой давалі вараную капусту. Потым яшчэ ішлі на забаву. Пасля забавы маладыя пераязджалі ў дом маладога, дзе гасціна адбывалася на другі дзень.

Пасаг перавозілі пасля вяселля. Пасаг давалі як хто. Мне далі карову і дзве авечкі, бо толькі трэба было. Як хто зямлю браў, то пасаг быў меншы. Бо як зямлі чацвяртушка, то калі якая сляпая, кульгавая, гарбатая. У нас адзін узяў згорбленую, і добра не бачыла, але ўзяў, бо зямлі чацвяртуха. Калісь зямля была патрэбная.



* * *

У адведкі бліжэйшыя ішлі хто калі, найчасцей у чацвер, але ўжо тады, як парадуха *одужшае*. Далейшыя і суседкі дагаворваліся на нядзелю. Напякуць *галок*, бяруць *два бутэлькі* квасу — калісь вельмі добры квас быў, цяпер няма такога, — або дзве пары яец; у пост два *следзі* бралі. Падаркаў не насілі, калісь такое моды, як цяпер, не было. Хатнія давалі *вуодку*. І ўжо як падпілі, то тады ішлі спяваючы. Такія былі адведкі.

* * *

На хрысціны прыходзілі толькі прошаныя: свае родныя і суседзі, а больш ніхто. А калісь збіраліся людзей, бо то не тое, што цяпер — па адным, па двое. У мяне дома было ж дзевяць душ! Кумоў выбіралі бацькі дзіцяці. Калі каго на кума ці куму прасілі, можна было адказаць, але так не рабілі, бо гаварылі, што гэта грэх. Я сама сямёра хрысціла: і свае былі, і суседзяў, і далейшыя. Частавалі гасцей, як прывозілі з *хрысту*. Напякуць яечні міску, з малаком. Або *аладкоў* напякуць... Я аднойчы пякла такія аладкі, напякла, пакаштавала: ой Божа мой — без солі! Я тады яшчэ з соллю спякла, перамяшала. А на хрысцінах бачу — нясуць мае аладкі. Ой, што то будзе, думаю. Нічога, з'елі; і ніхто нічога не сказаў!

* * *

Калісь было намнога весялей жыць. Я сама калісь, як выйду і сяду на парозе, а маладыя спяваюць так *харашэ*, аж сяло ляшчыць! А цяпер не спяваюць, толькі о так, каб увесь свет заняць; усяго мала ўсім. Цяпер ужо ж так добра жыць. Ну, можа ў горадзе каму цяжэй. Але на вёсках — такія маладыя дастаюць рэнту, і зямлю робяць; то чаго ж больш трэба!?

*Запісаў* **Аляксандр Вярбіцкі**
*Фота аўтара*

# Народная ўлада і беларусы

Кожная палітычная адліга ў Польшчы і дэмакратызацыя грамадскага жыцця спрыялі паляпшэнню сітуацыі нацыянальных меншасцей і наадварот — росту таталітарызму, які заўсёды найбольш дакучаў усялякім меншасцям.

У 1955 г., калі ўпершыню рэфармавалася Народная Польшча, нават найгоршыя сталіністы пачалі крытыкаваць сістэму, якой верна служылі, і сталі дамагацца зменаў. На хвалі гэтага агульнага імкнення да перамен, былі створаны грамадска-культурныя таварыствы ўсіх меншасцей, а кожная няпольская нацыянальнасць была адборана адным часопісам. У студзені 1957 г. Цэнтральны камітэт Польскай аб'яднанай рабочай партыі стварыў камісію па нацыянальных справах. Яе мэтай было „wypracowanie stanowiska KC PZPR w podstawowych problemach dotyczących mniejszości narodowych oraz udzielenie politycznej pomocy w realizacji linii partii istniejącym organizacjom partyjnym oraz stowarzyszeniom kulturalnym mniejszości narodowych". З часам там, дзе былі меншасці, такія камісіі ствараліся пры ваяводскіх камітэтах партыі. У Беластоку такая камісія пачала працаваць у красавіку 1957 г. Кожную меншасць у камісіі ЦК прадстаўляў найчасцей адзін з кіраўнікоў грамадска-культурнага таварыства. За шчасце беларусаў у цэнтральных органах улады змагаўся сакратар ГП БГКТ Аляксей Казёл. Дзякуючы ягонай актыўнасці, шмат увагі падчас пасяджэнняў камісіі адводзілася беларусам. Ніколі, аднак, не гаварылася пра сапраўдныя праблемы нашай меншасці, а найчасцей пра малую папулярнасць „Нівы" сярод сялянства. Партыя заклікала галоўнага рэдактара „zmienić profil tygodnika „Niwa". Czasopismo to powinno stać się organem szerokich mas chłopstwa białoruskiego. Pismo powinno zatroszczyć się o odpowiednią tematykę dla młodzieży, kobiet. Redakcja musi zrobić wysiłek, aby ściślej powiązać się z wsiami zamieszkałymi przez Białorusinów. Celem zaspokojenia potrzeb inteligencji białoruskiej „Niwa" powinna zorganizować na odpowiednim poziomie dodatek literacki". (Wnioski z Komisji KC PZPR d/s Narodowościowych z czerwca 1957 r.) Гэтыя высновы, амаль як нейкі рэлігійны канон, разглядала камісія пры Ваяводскім камітэце партыі ў Беластоку. Пагаджаючыся з імі поўнасцю, камісія даручыла партыйнай арганізацыі пры БГКТ і рэдакцыі „Нівы" выкананне пажаданняў вярхоўных улад партыі. Адначасова кіраўніцтву Таварыства партыя прыпамінала, што „koniecznym jest, aby zarządy towarzystw zdołały sobie w pełni uświadomić sprawę, dla jakich celów zostały powołane, aby uwolniły się od wypaczeń i naleciałości nacjonalistycznych, popychających towarzystwa na drogę obrony interesów mniejszości narodowych. Wreszcie by zdały sobie sprawę, że zostały powołane przez partię do pracy społeczno-kulturalnej wśród mniejszości narodowych, w której winne być zawarte głębokie socjalistyczne treści wychowawcze". (Projekt wniosków do dyskusji Komisji KC PZPR d/s Narodowościowych z dn. 7 maja 1958 r.)

У 1960 г. Камісію па справах нацыянальных меншасцей пры Ваяводскім камітэце ПАРП узначальваў Уладзімір Станкевіч. Амаль усе пратаколы з пасяджэнняў камісіі пад ягоным кіраўніцтвам паказваюць, што „Ніва" не мела вялікай пашаны ва ўладах партыі. Побач захаплення дасягненнямі БГКТ пастаяннае было нараканне на працу рэдакцыі. Не ўсё тут зразумелае, асабліва таму, што рэдактар Валкавыцкі быў і членам камісіі, і намеснікам старшыні ГП БГКТ. „Towarzysz Stankiewicz nawiązując do czytelnictwa białoruskiej gazety „Niwa", gdzie na 200 tysięcy ludności białoruskiej kolportuje się zaledwie 4000 egz. powyższej gazety, a w okresie letnim notuje się spadek do 900 egz." — пісалася ў пратаколе з пасяджэння Камісіі ад 29 ліпеня 1960 г. Каб пашырыць зацікаўленне „Нівай", партыя загадала стварыць пры рэдакцыі гурткі літаратараў і народнага мастацтва.

Падчас нарадаў камісіі ў Беластоку 31 студзеня 1961 г. асаблівы суд над тыднёвікам пачаў Уладзімір Сянкевіч — інструктар адміністрацыйнага аддзела Ваяводскага камітэта ПАРП. Улады партыі асабліва былі парушаны фактам змяшчэння ў „Ніве" інтэрв'ю з праваслаўным святаром. „Wywiad z popem to bardzo wielki błąd i nie do wybaczenia", — заяўляў Сянкевіч. Поўнасцю падтрымаў яго Аляксандр Лебядзінскі — сакратар Павятовага камітэта партыі ў Сэйнах. „To co zostało zrobione, zostało zrobione niesłusznie. Prowadzimy akcję dekrucyfikacyi, a tu masz kwiatek, wywiad z popem zamieszczony obok nazwisk działaczy Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Z tego powinniśmy wyciągnąć wnioski i jak najdalej idące konsekwencje. Naczelny redaktor odpowiada za całość gazety i nie powinien wypuścić tego numeru gazety. Uważam, że pewni ludzie w redakcji prowadzą wrogą robotę. Wiele jest odgłosów na temat przyłączenia Białostocczyzny do Związku Radzieckiego". Усё гэта гаварылі г.зв. „нашы хлопцы", а палякі, якія былі ў камісіі, зрэдку бралі голас у такіх дыскусіях. Рэдактару Валкавыцкаму было даручана навесці парадак у рэдакцыі.

Чытаючы пратаколы з пасяджэнняў партыйнай камісіі, у якой прыгнятаючую большасць членаў складалі беларусы, немагчыма зразумець, адкуль бралася такое самаедства. Амаль усе журналісты мелі тады членскія білеты ПАРП, цэлай душой былі адданы справе сацыялізму. 4 верасня 1961 г. таварышы Антон Рошка, Уладзімір Канстанчук і Леакадзія Зіневіч, якія прадстаўлялі партыйны апарат, заклікалі ўлады БГКТ да большай адказнасці за змест „Нівы". З іх выказванняў відаць, што тыднёвіка яны ніколі не чыталі. Сакратар ГП БГКТ Лідзія Бялецкая заяўляла, што цяжка супрацоўнічаць з „Нівай" з прычыны яе адарванасці ад народа і Таварыства. Рэдактар Валкавыцкі бараніўся, аргументуючы, што ён сам з'яўляецца намеснікам старшыні Галоўнага праўлення і ніколі не адыходзіў ад Таварыства, а ўсе журналісты гэта вельмі актыўныя дзеячы, таму паказчык партыйнага членства супрацоўнікаў рэдакцыі перавышае ўсе нормы.

Ацэнка пяцігадовай дзейнасці рэдакцыі не была адназначнай. „Mimo niskiego nakładu „Niwa" odegrała poważną rolę. W ciągu 5 lat ukazało się około 300 wierszy i 40 opowiadań samorodnych miejscowych poetów i prozaików. Wydrukowano 100 zapisów folklorystycznych o tematyce ludowej. Poważny wkład wniosła redakcja „Niwy" w popularyzacyji tradycji rewolucyjnych walk klasy robotniczej i chłopstwa. Mankamentem zespołu redakcyjnego jest słabe powiązanie z Zarządem Głównym BTSK. Tacy redaktorzy jak Czerniakiewicz, Wołkowycka, Konopacki, Rudczyk są oderwani od Towarzystwa. Ludzie ci nie tylko, że nie zachodzą do Zarządu Głównego, ale w ogóle unikają wyjazdu w teren w sprawach zbierania materiałów o działalności Towarzystwa, nie podporządkowują się zaleceniom kierownictwa Zarządu Głównego BTSK".

Чытаючы старыя партыйныя дакументы і аналізуючы заўвагі ў адрас рэдакцыі „Нівы" з боку цяперашніх беларускіх дзеячаў і палітыкаў Беласточчыны (глядзі: размова з Сяргеем Плевам, „Czasopis", nr 7-8), відаць, як глыбока закаранілася пашана традыцыі ў нашым грамадстве.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

<u>Да 60-х угодкаў з дня заснавання</u>

# Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве

У „Беларускім календары" за 1980 год пра варшаўскае Асветнае таварыства беларусаў (АТБ) добра напісалі Пятро Ластаўка і Францішак Каравацкі. На аснове іх успамінаў быў напісаны Ю. Васілеўскім артыкул пра таварыства ў першы том „Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Здаецца, што яшчэ можна дадаць да напісанага? Але аказалася, што можна і трэба! Справа ў тым, што за савецкім часам П. Ластаўка, з палітычных прычынаў, не мог успомніць цэлы шэраг актыўных дзеячаў АТБ. Дык паспрабую асвятліць некаторыя невядомыя факты з гісторыі гэтай арганізацыі.

У другой палове 30-х гадоў артыкулы і інфармацыі з Варшавы Пятра Ластаўкі рэгулярна змяшчаў віленскі часопіс „Шлях моладзі". У артыкуле „Беларусы ў Варшаве" (н-р 8, 25 сакавіка 1938 г.) Ластаўка пісаў: „Варшава гэта рухлівае места. (...) Я зьявіўся ў Варшаве ў 1931 г., спачатку быў безработным, а пасьля, часта думаў аб стварэньні беларускае арганізацыі ў Варшаве, і ўрэшце ў 1936 г. зрабіў у гэтым кірунку першую спробу".

Ф. Каравацкі пісаў, што „істотную ролю ў стварэнні (...) таварыства адыграла група студэнтаў-беларусаў, якія вучыліся ў Варшаве". Ластаўка таксама адзначае, што 14 студэнтаў удзельнічалі ў арганізацыйным сходзе Асветнага таварыства (усяго прысутнічала 22 асобы). Аднак прозвішчаў беларускіх студэнтаў у згаданых успамінах амаль няма.

Каб даведацца прычыну гэтага, прагледзім склад ураду АТБ, выбраны на агульным сходзе 6 лютага 1938 года: Гапановіч Язэп — старшыня, Орса Мікалай — віцэ-старшыня, Ластаўка Пятро — сакратар, Гінько Янка — скарбнік, Шляхтун А. і Чантарыскі Янка — вольныя сябры. Рэвізійная камісія: Вітушка Міхась, Панько Людміла і Чурыла Антон. Таварыскі суд: Шыдлоўскі Аляксандр, Туракевіч Алена і Ажгін Юльян.

Не маючы інфармацыі пра большасць з названых студэнтаў, я спынюся на двух асобах: Гінько Янка і Вітушка Міхась. Нават і страшна было падумаць, каб успомніць іх у публікацыях за савецкім часам. Абодва яны скончылі палітэхніку ў Варшаве, абодва напярэдадні нямецка-савецкай вайны ўвайшлі ў групу ксяндза Вінцэнта Гадлеўскага, якая змагалася за дзяржаўную незалежнасць Беларусі. Пазней яны сталі сябрамі ЦК Беларускае незалежніцкае партыі, афіцэрамі Беларускае краёвае абароны, удзельнічалі ў Другім усебеларускім кангрэсе. У лістападзе 1944 года Гінько і Вітушка вярнуліся на Беларусь з Усходняй Прусіі з дэсантам БНП, каб арганізаваць партызанскі рух супраць акупантаў. У адным з баёў Янка Гінько трапіў у палон, прайшоў бальшавіцкія турмы і ў канцы выжыў. Ажаніўся з жыдоўкай і жыў у Маскве, апошнія гады быў паралізаваны. Памёр у 80-х гадах.

Міхасю Вітушку пашанцавала больш. Ён арганізаваў партызанку „Чорнага Ката" вясною 1945 г. ды тэрарызаваў акупантаў да пачатку 50-х гадоў. Калі стала відавочна, што вайны Захаду з СССР не будзе, і барацьба супраць савецкае ўлады ўласнымі сіламі бесперспектыўная, генерал М. Вітушка знік. Ён і частка ягоных партызанаў, выканаўшы свой абавязак перад Бацькаўшчынай, адышлі непераможанымі.



*Міхась Вітушка.*

Як бачым, АТБ было кузняй беларускіх нацыянальных кадраў. Успомню яшчэ шэраг прозвішчаў актыўных сяброў таварыства, незаслужана забытых: Мечыслаў Контаўт, А. Панько, Мароз, Карэліч, Тарасюк, Карказянка, Чатырка, Латышонак, Брахун. У кожнага з іх свой лёс. Контаўту, напрыклад, было наканавана загінуць падчас вайны ад бандыцкай кулі...

На жаль, з той тысячы сяброў АТБ (гэтую лічбу падае энцыклапедыя) цяпер жывуць толькі адзінкі. Магчыма, яны змогуць яшчэ напісаць праўдзівыя ўспаміны. Праўдападобна, такія ўспаміны пакінуў Янка Гінько, якога дапытвалі следчыя дзяржбяспекі. Спадзяюся, што напісаў успаміны Міхась Вітушка. Ёсць надзея, што і Міхась Рагуля, які жыве цяпер у ЗША, былы сябра Рэвізійнае камісіі АТБ, занатуе для гісторыі падзеі 60-гадовай даўніны. Каб памяталі.

**Сяргей ЁРШ**

<u>Адгалоскі</u>

# Нарэшце... шыла вылезла з мяшка

З ліста Барыса Палоцкага („Ніва", н-р 28) я даведаўся, якога знакамітага абаронцу правоў чалавека маем на Беласточчыне. Такога чагосьці ў „Ніве" яшчэ не было і можа варта тады задумацца, ці не прапанаваць спадара Палоцкага ў кандыдаты на Нобелеўскую прэмію. Знакаміты карэспандэнт піша лепей, чым нейкі палкоўнік-палітрук, вучань яшчэ больш знакамітага Андрэя Вышынскага.

Спадар Вышынскі ў трыццатых гадах на сто спосабаў патрапіў даказаць, што ўсе ахвяры сталінскага шаленства поўнасцю заслужылі на свой лёс. Не пісаў ён пра іх інакш як „сволач", „сабака", „свіння". Дзядзька Захар сваіх ворагаў называе толькі „смеццем", але гэта вельмі памяркоўны эпітэт як на шчырага камуніста і зусім не аддае рэвалюцыйнай заядласці і адданасці справе.

Барыс Палоцкі пытае, ці Пазьняк, Яновіч, Латышонак, Вапа з'яўляюцца беларусамі. Ёсць падставы падазраваць, што яны аднак беларусы, але зусім простым здаецца быць адказ на пытанне, ці сам спадар Палоцкі ёсць беларусам. Камуніст, як гаворыць камуністычнае святое пісанне, не мае нацыянальнасці, ён інтэрнацыяналіст, кожная нацыя — гэта яго нацыя. У камуністаў беларускага паходжання ёсць яшчэ і асаблівая інтэрнацыяналістычная прыкмета: кожная нацыя можа быць прызнаная імі як свая, апрача беларускай.

Час ад часу выконваюць яны толькі прафесію „беларуса". Але калі партыя выдавала ім загад стаць „антыбеларусамі", яны не мелі ніякіх клопатаў з выяўленнем свайго новага вобраза.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# БЕЛАВЕЖА

**СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 439**

**Рэдактар: Сакрат ЯНОВІЧ**


**Anatol SYS**

## Skorpion

wokół raju mojego
zaplotły się w wieniec
korzenie
to mój sad
jabłka z niego nie weźmiesz

wokół smutku mojego
gałęzie w wieniec splątane
a nad sadem tym niebo
zbiór gwiazd zamknął na zamek

wokół mojego losu
dwie moje ukochane
splotły się we dwie kosy
z nimi sen mi nie dany

* * *

W bezimiennej mojej książce,
Nad mym wierszem, też bez nazwy,
Na bielutkiej, jak śnieg, kartce
Wszedł gwiazdozbiór, we trzy gwiazdy,
Nowy znak — trzynasty — Serce.

I samotny jestem teraz.
Niebo w nocy wciąż podglądam —
W pyle niemych gwiazdozbiorów
Strzelec tam się z łukiem błąka.

*Przekład Mirosławy ŁUKSZY*

**Барыс РУСКО**

## Нядзеля

Дзверы насцеж.
На стале ландыш,
як заўсёды вясною.
Сапе гадзіннік змучаны,
равеснік мой.
Насупроць людзі.
Манахі і ў нядзелю
нясуць на сабе ноч.
Ударыў звон,
на шыбе зелень сонца,
а я паміж
акамянеласцю вякоў
і ўваскрэшанай надзеяй.

**Алесь ЧОБАТ**

## Зямля нічыя

Зямля нічыя і нам зямля не чужая.
Толькі што часта ездзім ды пераязджаем —
на службу, на гандаль, на халтуру і на шабашку.
Жыць не цяжка — мець зямлю сваю цяжка.

Зямля нічыя. Адна такая на свеце.
Старыя здыхаюць. І ўжо паміраюць дзеці.
Але дзе паміраць народу, які з волі ўласнай здыхае?!
Нават магіла любая гаспадара свайго мае.

Лётаюць на базарах — як вароны над пожняй —
надта хітрыя людзі паміж Расіяй і Польшчай,
і вельмі хітрае месца з краю ім адвялі:
— Не знаеш, што за прыдурак?
— Той? З Нічыёй Зямлі...

## Людзі нашы добрыя...

Як абрыдлі мне гэтыя спрэчкі, сваркі й размовы!
Як абрыдла чакаць мне ад гэтага краю дабра!
Лепш мы пойдзем праз луг у белай пене рамонак
і сядзем на беразе перад агнём кастра...

Лепш твае словы слухаць — чым енкі і крыкі чужыя;
ты пагаворыш пра вёску і пра дзяцей —
і гэта лепш і святлей, і хай Бог нас ратуе і крые
ад голаду і дурнаты, а перад усім — ад людзей.

Людзі нашы добрыя... Але пасля работы.
А на рабоце начальнік — а трэба ж служыць, каб жыць!
А гэтыя гонар, сумленне і ўсе старыя кляйноты
нікому больш непатрэбныя, і ніхто па іх не бяжыць...



*Мал. Міколы ДАВІДЗЮКА*

**Ліна КАСТЭНКА**

* * *

Гудзелі ветры віяланчэллю ды пальмы
малявалі
акварэль.
Я ўчора бачыла скалу, дзе быў прыкуты
Праметэй.

Ў краіне старажытнае Калхіды, дзе п'ецца
радасна
віно.
А я ж лічыла — гэта ж міфы. Я ж думала,
гэта ж
— даўно!

Ў краіне гордай і гарыстай скала сівее, як
Сафокл.
Яе паказваюць турыстам, турысты
зазіраюць у
бінокль.

Тут берагоў амфітэатры ды мора наліваецца
ад барв.
О, Праметэю! Варта?!
— Варта! —
так ён сказаў мне дзесь з-за хмар.

*Са зборніка „Непаўторнасць" (Кіеў, 1980)*
*З украінскай мовы пераклаў*
*Юры ТРАЧУК*

**Віктар ШВЕД**

# Цыстэрна

(*Апавяданні з маёй маладосці*)

І ў беларускія вёскі, нягледзячы на вайну тады, праціскаўся прагрэс. З'явілася ў Моры малатарня, у Несцера Філіманюка. Купіў ён яе да вайны, у самы яе пярэдадзень і не ўсе грошы адразу плацячы. Ахвотных пакарыстацца ёю знаходзілася шмат, хоць і лічылася, што цэпам дакладней вымалочваецца збожжа. Але ў ваенную завіруху не хапала паліва для машыны. Некаторым удавалася дастаць бензін ад немцаў, у абмен за сала, яйкі, самагонку. Так было пасля, а тым часам шугаў фронт, стаяла лета сорак першага і блізіўся час жніва.

Саветаў разбілі немцы хутка, яшчэ да жніўнае пары; у ваколлі нямала круцілася акружаных чырвонаармейскіх атрадаў. Сітуацыя была такая, што вайна вайною, а гаспадарку рабіць трэба...

Неяк даведаўся я, што ў тое адступленне Чырвонай Арміі з беластоцкага катла скінута з чыгункі ў роў каля Арлянкі цыстэрну з бензінам. Саветы перапампавалі з яе не ўсё, і так пакінулі. Ніз цыстэрны быў поўны. Я з братам Пецькам, перачакаўшы адыход немцаў з вёскі, захапілі посуд ды гумовую трубку, каб, хаваючыся ўздоўж чыгункі, дабрацца да цыстэрны, што ляжала ад Мора прыблізна ў чатырох кіламетрах.

Будучы ўжо на месцы крыху паспрачаліся, хто з нас палезе ў сярэдзіну ламарэндзіны. Я намаўляў яго, падхвальваючы ў спрытнасці. Ён паверыў і па жалезнай драбінцы, што вяла ўглыб, сышоў у тую прорву. Бензіну аказалася не столькі, каб можна было чэрпаць вялікім посудам, і мы прыстасавалі гумовую трубку. Пасмактаўшы яе канец, пачала ліцца нам здабыча; брат сядзеў у цыстэрне, даглядаючы, каб трубка не выплыла на паверхню (гэта быў свайго роду наш урок фізікі).

Раптам Пеця пачаў крычаць, што ён душыцца; у амаль пустой цыстэрне выпароўваў бензін і не было чым дыхаць. Я ледзь вывалак яго на траву. Пеця натужліва ванітаваў ды стагнаў, закаціўшы пад лоб вочы. Мяне праціннаў жах. Ён наракаў, што слепне. Мінула, можа, каля гадзіны, пакуль брат акрыяў сяк-так і даў рады ўстаяць на нагах. Я нёс дамоў посуд з бензінам, а Пеця калываўся за мною.

Праступочы дахаты, у нашым садзе мы згледзелі адпачываючых чырвонаармейцаў; карабіны яны паставілі, абапёршы аб жэрдку. Адзін з іх аклікнуў нас.

— Зачем вы шляетесь?!

— Тут наша хата, — паказаў я рукою.

— А что несёте?

— Это добычный бензин. Надо нам будет молотить рожь, — патлумачыў я.

Больш не дапытвалі.

Салдаты даведаліся ад сялян, што немцы знаходзяцца ў Старым Беразове. Чамусьці вырашылі яны атакаваць іх, замест прабівацца глухімі сцежкамі на ўсход. Ноччу ўварваліся ў Старое Беразова, калі немцы ўжо спалі, нічога не спадзеючыся. Крыкі „ўра-а!!" чулі мы ў Моры; даволі хутка аціхлі. Аказалася потым, што адбыўся там жудасны рукапашны бой, у якім загінулі амаль усе тыя салдаты. Палегла і нямала немцаў; злосныя, яны спалілі ўсю тую вёску.

Вайна адсунулася ў Расію, пад Маскву.

Маючы бензін, мы ў зазімак змалацілі ўсянютка сваё збожжа.

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# Грыбы сняцца мне ноччу

Пасля цёплага дажджу-грыбасею незаўважна вырастаюць баравікі, лісічкі, падбярозавікі, пячурыцы. Кожнай раніцы я і мой тата ідзем па грыбы. Мы заўсёды спяшаемся быць першымі. У наш лес, Белавежскую пушчу, прыязджае процьма народу. Гэта не толькі жыхары навакольных вёсак, але і людзі з Гайнаўкі, Бельска, Чаромхі. Але я і мой тата не баімся спаборніцтва іншых грыбнікоў. Мой тата ведае „свае месцы". У гэтых месцах мы заўсёды знаходзім баравікі. Тата сказаў мне, што яго бацька паказаў яму тыя месцы і да сённяшняй пары ведае пра іх толькі наша сям'я. Цяпер і я ведаю сямейную тайну. „Зорка", хачу напісаць табе, што збіранне грыбоў гэта найцікавейшы занятак на свеце. Думаеш пра іх не толькі ў час вандровак па лесе. Я, калі нават закрыю вочы, то ўвесь час сняцца мне грыбчыкі. Дзякуючы тату, я пазнаў назвы грыбоў. Зараз магу ўжо сам адрозніць добрыя, ядомыя віды ад „воўчых бэтак". Так у нас называюць мухаморы і ўсе неядомыя, ядавітыя грыбы.

Калі я хаджу па лесе, мне заўсёды прыгадваюцца словы Якуба Коласа з „Новай зямлі":

*Я помню летнія часіны,*
*І вас, грыбныя баравіны.*
*Ранюткі час. Нідзе нікога,*
*Між дрэў звіваецца дарога,*
*А па дарозе мы з кашом*
*У лес шыбуем ціхачом.*

І я, як герой „Новай зямлі", называюся Кастусь. Можа таму мне словы Якуба Коласа такія блізкія. Можа таму я так палюбіў хадзіць па грыбы.

**Кастусь ХІЛІМАНЮК**



*Ася Хмялеўская любіць чытаць беларускія часопісы.*
Фота Лёніка ТАРАСЭВІЧА

## Вершы Віктара Шведа

### Памерла рыбка

Вярнулася з прадшколля
Заплаканая Оля.
— Што здарылася, доня,
Ты плакала сягоння?

— Я згледзела праз шыбку,
Што залатая рыбка
Памерла нам, нябога.
Відаць, піла замнога.

### Да якіх скацін належыць сын?

Спытаўся нехта незнарок:
— Чаму заплаканы сынок?
— Плачу, які наш будзе дом?
Мама татульку зве аслом,

Ну, а чаргова бацька мой
Матулю абазваў казой.
Калі такая ў нас сям'я,
Якой скацінай буду я?

* * *

*Канікулы — час гульняў і адпачынку.*
Малюнак Агнешкі КАЧАНОЎСКАЙ з Чыжоў



## Родныя карэньчыкі

Родныя карэньчыкі —
Хлопчыкі, дзяўчаткі.
У мяне вас толькі сем,
Ды восьмы — праўзунок Яраслаў —
Праўнучак Ярошка,
Яшчэ на слабенькіх ножках,
Маленькі карэньчык Ярошка,
Сыночак унука Алёшкі.
Растуць нашчадкі нашага рода,
Прадоўжыць жыццё беларускага народа.
Светлавалосы Ярошка
Лашчыцца да прадзеда старога,
Лезе на калені, каб пагладзіў трошкі.
Хоча быць са мною кожнага дня,
Ён ведае, што я яму радня.
Я вельмі рады — вас у мяне восем.
Усе мае харошкі.
Першы ўнук — Алёшка,
А другі — Міколка,
Аляксандра, Кацярынка,
Гэлька, Васілёк
Ды праўнучак Ярошка,
Прыгожая, маленькая крошка.
Усе вы беларускія карані,
Прадоўжыце жыццё майго дні.
Цешыце мяне галасамі зычнымі.
Мне здаецца, я вечна жыцьму,
З вамі дружыцьму.

**Сымон ШАЎЦОЎ**
**Аўстралія**

# Джэк і бабовае зерне

***(англійская казка)***

Жыла сабе ўдава з сынам Джэкам, якому яна не адмаўляла ні ў чым. Але скончылася гэта кепска: Джэк не слухаўся яе і вырас капрызлівым. Праўда, усё гэта было не таму, што ён меў дрэнны характар, а таму, што маці ніколі не карала яго. Ён зусім не працаваў, і маці была вымушана прадаць усё, каб пракарміць іх. Нарэшце засталася адно карова.

І тут удава не магла ўжо стрымацца:

— Лайдак! — лаялася яна. — Гэта твая лянота давяла нас да галечы. Лайдак! У мяне няма грошай нават на кавалак хлеба. Нічога ўжо не засталося, толькі карова, дый тую трэба прадаць, каб не памерці з голаду!

Пасумаваў Джэк крыху, а потым, захацеўшы есці, угаварыў маці даць яму карову, каб адвесці яе на кірмаш.

Па дарозе ён сустрэў мясніка, які спытаўся, куды Джэк вёў карову. Хлопец сказаў, што хоча прадаць яе. У мясніка ў торбе было некалькі рознакаляровых бабовых зярнятак. Ведаючы, што Джэк цікавіцца рознай прыгожай драбязой, мяснік прапанаваў абмяняць карову на бабы. Неразумны хлопец вырашыў, што гэта добры гандаль і аддаў карову за колькі зярняткаў. Калі Джэк шчаслівы прыбег дадому, маці раззлавалася і выкінула бабы праз вакно ў сад.

Раніцай Джэк прачнуўся і праз вакно ўбачыў нешта дзіўнае. Ён пабег у сад, дзе ўбачыў, што бабы прараслі. І як! Сцяблíны былі таўшчэзныя і перапляліся так, што па іх можна было падняцца, як па драбінах. Вярхушкі губляліся ў воблаках.

Да Джэка тут жа прыйшла думка: паднясца па сцябліне і паглядзець, што там на небе. Ён ад захаплення нават на голад забыўся і нічога не сказаў маці.

Праз некалькі гадзін зусім стомлены Джэк быў наверсе. Агледзеўся і ўбачыў, што там была сапраўдная, але дзіўная краіна: ані дрэва, ані куста, дамка ці якой жывой істоты.

Джэк сеў на камень і пачаў думаць пра маці: яму было вельмі сорамна, што ён, не спытаўшы дазволу, залез так далёка.

Пагараваў ён і пайшоў шукаць, дзе яму паесці, бо проста паміраў з голаду. Раптам убачыў ён прыгожую маладую жанчыну. У руцэ яна трымала невялікую белую чарадзейную палачку, упрыгожаную наверсе паўлінам з чыстага золата. Яна падышла да яго і сказала:

— Я раскажу табе тое, што баялася расказаць маці. Але спачатку паабяцай зрабіць тое, што я загадаю. Я — фея, і калі ты не зробіш тое, што я скажу, я не змагу дапамагчы табе і ты можаш загінуць.

Джэк страшэнна перапалохаўся, але паабяцаў зрабіць усё.

— Твой бацька быў вельмі бага-

# Летнія роздумы дзяцей

Марта і Моніка Кавальскія наведалі вёску сваёй бабулі. Дзяўчаты ніколі раней не гасцявалі так доўга ў вёсцы. Як сапраўдныя беластачанкі марылі яны пра канікулы ў Грэцыі, або Іспаніі. Марта і Моніка доўга не маглі прывыкнуць да вясковых звычаяў, беларускай мовы, непасрэднасці вяскоўцаў.

— Калі бабуля гаварыла з сяброўкай, я нічога не разумела, — прызнаецца шаснаццацігадовая ліцэістка Марта.

— Але гэтая мова мне так спадабалася, што я рашыла яе вывучыць, — дадае дзяўчына.

Яе сястра, дванаццацігадовая Моніка яшчэ больш зацікавілася вясковай іншасцю.

— Я пыталася ў бабкі, ці яна выпадкова не прыехала з Беларусі. Але пазней заўважыла, што не толькі бабуля, але і ўсе тут так гавораць.

Дзяўчаты ніколі раней не чулі, што ў Польшчы жывуць нацыянальныя меншасці.

— Нашы бацькі баяліся сваёй сапраўднай нацыянальнасці, — адзначае Марта.

— Не навучылі нас мовы, беларускага алфавіту, нашай сапраўднай спадчыны. Што з таго, што я ведаю англійскую мову? Я ж не ведаю гэтай найважнейшай, роднай. I для бабулі, найдаражэйшай асобы на свеце, такія дзеці, як мы, ужо чужыя! Бабка не ўмее нават правільна вымавіць нашых імён, — разважала Марта.

У вёсцы дзяўчаты сустрэлі дзяцей, якія чытаюць „Зорку". Моніка і Марта напісалі ў рэдакцыю вельмі цікавы ліст. Дзяўчаты, праўда, напісалі яго на польскай мове, але заявілі, што вельмі хацелі б хадзіць на ўрокі беларускай мовы. Таму інфармую ўсіх, што ў Беластоку такія ўрокі адбываюцца ў Пачатковай школе н-р 9. Горача рэкамендуем вам гэтыя заняткі. Там вы пазнаёміцеся з беларускімі кніжкамі, пачуеце пра выдатных людзей Беларусі, а таксама зразумееце важную праўду, што калі не будзем шанаваць свайго роднага, то і нас ніхто шанаваць не будзе!

**Зорка**

# Загадкі

* * *

Раптам з неба
У лес дрымучы
Сiганула
Змяя грымучая.

* * *

Вечарамі нерастуе
Казачнай ікрою.
Залатую рыбу тую
Хтосьці сеткай ловіць.

* * *

Гляньце: мо, сняжынкі гэта
Даляцелі аж да лета,
Ў цёплы дзень такі не таюць —
Усё лятаюць і лятаюць.

**Станіслаў Валодзька**

## Рашэнне конкурсу з 23 н-ра „Зоркі"

1) Верш „Люблю наш край" напісала Канстанцыя Буйла.

2) Усяслаў Чарадзей жыў і панаваў у Полацкім княстве ў 1044—1104 гадах.

3) Сакрат Яновіч, — самы таленавіты беларускі пісьменнік. Самыя вядомыя яго творы гэта: „Białoruś, Białoruś", „Terra incognita: Białoruś", „Dolina pełna losu", „Доўгая смерць Крынак", „Самасей", „Wielkie miasto Białystok", „Сярэбраны яздок", „Загоны", „Скарга на Гісторыю". Яновіч — аўтар шматлікіх апавяданняў.

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі: Мажэна Севяранюк з Гукавіч, Аня Кіцаль з Трывежы і Анэта Купрыяновіч з Кленік. **Віншуем!**



*Дзяўчаты з бельскай „тройкі".* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Крыжаванкі № 31

### Магічная крыжаванка

Адгадайце словы і ўпішыце іх у клеткі па гарызанталі і вертыкалі.

1) б'е летам ураджай,
2) можа быць добрая або гмінная,
3) першы чалавек,
4) элегантная жанчына.

| 1 | 2 | 3 | 4 |
|---|---|---|---|
| 2 | | | |
| 3 | | | |
| 4 | | | |

### Школьная крыжаванка

ядавітая змяя
мужчынскі або жаночы
з яго рабілі лапці
ядомы грыб
тлум
жоўтыя грыбы
на галаве ў караля
пасля пачатковай школы

# Люблінская унія

Панаванне Жыгімонта Аўгуста набліжалася да канца. Быў ён апошнім вялікім князем Літвы і адначасова каралём Польшчы. Паходзіў ён з роду Ягелонаў. У адрозненне ад сваіх вялікіх продкаў Жыгімонт адчуваў большую сувязь з лацінскай культурай, чым руска-візантыйскай. Быў ён бяздзетны і тым самым усім было вядома, што замыкаў ён доўгую эпоху панавання Ягелонаў у Літве, Беларусі і Польшчы. Разам з адыходам гэтага манаршага роду пераставаў існаваць адзіны фактар, які спалучаў усю гэту тэрыторыю. Палякі дамагаліся ад старога караля такога заканадаўства, якое з тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы стварала б адну дзяржаву. Дамагаліся таксама неабмежаванага права на набыванне зямлі для сябе на тэрыторыі Княства і дзяржаўных пасад на Беларусі. У сапраўднасці іх прапановы ішлі ў напрамку ліквідацыі Вялікага княства.

Сойм, на якім мелі адбывацца нарады над супольнай будучынёй Беларусі і Польшчы, быў запланаваны ў Любліне летам 1568 г. Беларускія паслы, пабачыўшы падрыхтаваны палякамі „Акт аб уніі", абураныя выехалі з Любліна, адмовіўшыся нават ад дыскусіі над гэтым праектам. У адказ Жыгімонт Аўгуст выдаў загад інкарпарацыі паўднёвай часткі Вялікага княства. Палякі забралі тады Валынскае, Браслаўскае, Кіеўскае і Падляшскае ваяводствы. Рыхтаваліся яны таксама да вайны з беларусамі ў абарону новай дзяржаўнай прыналежнасці захопленых зямель. На такі канфлікт Беларусь не мела сілы. Ад некалькіх гадоў змагалася яна ўжо з Масквой, абараняючы свае ўсходнія межы. Вайна на другім — заходнім — фронце была надта небяспечная для аслабленай дзяржавы, асабліва таму, што патэнцыял агрэсараў значна перавышаў сілы Беларусі. Таму 28 чэрвеня 1569 г. паслы Вялікага княства былі вымушаны падпісаць выпраўленае пагадненне з Польшчай. На практыцы, аднак, яшчэ шмат гадоў Беларусь заставалася самастойнай дзяржавай, мела свае войска, адміністрацыю, заканадаўства, скарб. Супольныя былі сойм, кароль і замежная палітыка. З другога боку дарогі да пашырэння польскіх уплываў былі адкрыты. З гэтага часу Беларусь пастаянна трапіла сваю рэлігію, культуру, мову і інтэлектуальную эліту.

ты і шчодры чалавек, — пачала расказваць фея. — Ён ніколі не адмаўляўся дапамагчы людзям, асабліва бедным. Непадалёк ад дома твайго бацькі жыў волат, якога ўсе навокал баяліся, бо ён быў вельмі злы і каварны. Да таго ж быў ён вельмі зайздросны і ненавідзеў, калі аб іншых казалі, што тыя камусьці дапамагаюць. Волат рабіў усё, каб той чалавек не мог больш рабіць добрыя справы і каб аб ім больш ніхто не гаварыў. Твой бацька быў надта прыкметным чалавекам, каб волат прайшоў міма. I ў хуткім часе ён здзейсніў сваю чорную справу. Вы ўсе ўтраіх ехалі да сябра, які жыў у іншым горадзе, і волат забіў твайго бацьку, а цябе і тваю маці захапіў.

Табе тады было толькі некалькі месяцаў. Тваю маці, амаль мёртвую ад жаху, слугі волата кінулі у лёх пад домам, дзе вы разам правялі шмат часу. Спалоханыя адсутнасцю гаспадароў, слугі твайго бацькі выправіліся на пошукі, але дарэмна. Тым часам волат зрабіў так, каб усе грошы твайго бацькі дасталіся яму.

Пасля таго, як твая маці правяла некалькі месяцаў у астрозе, волат сказаў, што вызваліць яе, калі тая нікому не раскажа, што ён зрабіў. А каб упэўніцца, што яна і сапраўды нічога не зможа яму зрабіць, волат пасадзіў яе на карабель і адаслаў у далёкую краіну, дзе яна не мела ніякіх сродкаў да існавання.

Я была апякункай твайго бацькі, але незадоўга да таго, як волат забіў яго, я парушыла закон. А мы, феі, таксама як людзі, маем свае законы. Мяне пакаралі: на пэўны час пазбавілі чарадзейнае моцы, і я не змагла дапамагчы твайму бацьку. У той дзень, калі ты пайшоў прадаваць карову, мая моц вярнулася. Гэта я падказала табе абмяняць карову на бабы. I я зрабіла так, што яны выраслі высокімі і тоўстымі... Волат жыве тут, у гэтай краіне, а ты — той чалавек, які мусіць пакараць яго за ўсе злачынствы. Ты спаткаеш цяжкасці і небяспеку, але мусіш пераадолець іх і адпомсціць за бацьку, іначай усё жыццё пражывеш жабраком.

Што да скарбаў волата, дык усе яны належаць табе, бо ён абрабаваў вас. Але будзь асцярожны: ён так любіць золата, што страта нават маленькай часткі насцярожыць яго і вельмі разлуе. Але ты мусіш забраць у яго тое, што належыць табе і справядліва пакараць яго за забойства. Праўда, твая маці не павінна ведаць пра ўсё гэта.

А цяпер ідзі проста па дарозе і прыйдзеш да дому, дзе жыве твой вораг. Калі будзеш рабіць усё так, як я загадала, я буду абараняць цябе. Калі ж ты не выканаеш майго загаду, цябе чакае жудасная смерць.

Скончыўшы гаварыць, яна знікла. Джэк доўга ішоў па дарозе. Увечары хлопчык нарэшце ўбачыў вялікі дом. Ён узрадаваўся, пайшоў шпарчэй і праз колькі хвілін быў ля ганка. У дзвярах стаяла прывабная кабета. Джэк папрасіў яе хаця кавалак хлеба і дазволу пераначаваць. Убачыўшы яго, жанчына вельмі здзівілася і сказала, што людзі ў гэтых мясцінах звычайна не ходзяць, бо яе муж — вялізны волат, — у ежу ўжываў чалавечае мяса.

***(заканчэнне ў наступным нумары)***

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*

# Эдыта эрудыта

Настала лета, а з ім пара канікулаў, сенакосаў, жніва, водпускаў etc. Гэта таксама і сезон розных спеваў, не толькі птушыных, але таксама розных фэстаў і фестываляў. У канцы чэрвеня адбываецца фестываль у Аполі, які выносіць на шырокія воды многіх, мала дасюль вядомых, артыстаў, як напрыклад, Януш Ляскоўскі ці Эдыта Гепэрт. Імя апошняй даволі пеўчае, бо так называлася найслаўнейшая французская спявачка Піяф, а таксама найбольш цяпер папулярная польская Гурняк. Яе папулярнасць так аграмадная, што выйграла праведзенае сяродпалякаў апытанне, з кім яны хацелі б правесці ноч (вядома, што не пра спевы было тое апытанне), выразна абганяючы актрысу Фігуру, у якой каардынаты буйнейшыя за Гурняк ды і не надта скрываная цікавасць да такога роду начлегаў. Была, аднак, у 60—70-я гады яшчэ адна Эдыта, якой голас можна было вельмі часта пачуць у любым нашым радыёпрыёмніку і пра якую можна было начытацца ў журнале *Kraj Rad*; (рады былі там на вяршыне вакальнага майстэрства — на ківок свайго „дырыжора” спявалі яны ва ўнісон). Называлася яна Пеха, нарадзілася ў Польшчы, а жыла ў СССР. З тэкстаў песень, якія яна выконвала, запамяталася мне толькі адна страфа:

*Если ты с юных лет*  
*В Ленинграде живёшь,*  
*Ты поймёшь меня, друг,*  
*Ты поймёшь.*

З вялікай радасцю прачытаў я нядаўна ў „Ніве” частку гэтай страфы, працытаваную бездакорным эрудытам. Багатая душа, што і гаварыць! Але тут жа засумаваў, чаму такі выдатны эрудыт абмежаваўся толькі да другой паловы яе, затойваючы першую, з якое тая другая і вынікае і без якой тая другая — як эрудыт без галавы. Ды і не толькі: з фразы „если ты с юных лет в Ленинграде живёшь” многа што вынікае, ой многа. А тут раптам счэзла яна, быццам у 30-я гады постаці Каменева, Зіноўева, Бухарына ці Рыкава са здымкаў Леніна з найбліжэйшымі супрацоўнікамі. Пострпэленінградскія рэтушоры справіліся так выдатна з гэтай справай, быццам тых фігур там і зусім не было; быццам капялюш-няўгледку надзелі. Хаця яны ў рэчаіснасці там былі і зняліся. Ды не толькі са здымкаў зніклі яны ў дзяржаве, якой сталіцу Ленін перанёс з пастаянна збунтаванага прэ-Ленінграда ў спакайнейшую Маскву — прапалі яны зусім. Якая гэта страта — не мне судзіць, адзначаю толькі факт. Не толькі асобы прапалі; прапалі творы мастацтва, падзеі, грамадскія працэсы. Пачалі хіліцца нават цэлыя культуры, каб не сказаць — цывілізацыі. Нельга аднак катэгарычна сказаць, што людзі ад гэтага збяднелі. Паяўляліся не толькі новыя партрэты ці новыя факты, але і новыя гарады. Апрача Ленінграда паўсталі Ленінск, Ленінакан, Ленінабад, Сталінабад, Сталіна, Сталінград. За добрым прыкладам пайшло і замежжа — там таксама выраслі Сталінвараш, Сталінштат, Сталін (у Румыніі і Албаніі) ды яшчэ Сталіногруд. З зямлі падняліся новыя горы: пік Сталіна і пік Леніна. Паявілася новая магутная навука і новыя эрудыты; аднаўлена і ўпарадкавана таксама літаратуру. Вырасла таксама новае пакаленне, якое *с юных лет* засвойвала новую эрудыцыю. І то як засвойвала! У 1969 годзе быў я з экскурсіяй у Маскве. Былі там і польскія дзяўчаты-курцы, якім скончыліся акурат польскія запалкі. І гэта была для іх вялікая драма, бо былі яны адукаваныя ў абавязковай тады расейскай мове і ведалі, як тыя запалкі назваць. І калі ўжо падыходзілі да кіёска, то так пачыналі хіхікаць, што купля станавілася немагчымай. Гэта праз празмерную эрудыцыю. А вось мне з-за неадукаванасці здарылася другое. Два гады пазней з'ездзіў я з экскурсіяй у Львоў. Паехалі туды і пажылыя людзі, якія там жылі *с юных лет*, толькі сіла лёсу вытурыла іх адтуль у Польшчу. І вось адзін падышоў да прадаўца і папрасіў *сіку*. Я здзівіўся на такое здарэнне і ўяўляў ужо сабе, што той прадавец схопіць майго спадарожніка за руку і ветліва пацягне ў нейкія кусты, быццам *паны* сваю Эдытку. А ён узяў наліў нейкай чырвонай вадкасці ў шклянку і турыст тое выпіў; каб яшчэ больш хацелася! — жахнуўся я. Можа мне падумалася не пра тое, што трэба, з прычыны птушак. Бачыў я там два помнікі: Міцкевічу і Леніну. Над першым высілася калонка з арлом, які мабыць адпужваў птушак ад помніка пад ім і яны трапятліва адляталі ў правільным напрамку — да помніка Леніну, над якім не магло быць нічога вышэй. І там яны аказвалі вялікаму правадыру сваю ўдзячнасць не толькі спевамі, але і адзначаючы яго галаву, як Вярхоўны Савет Брэжнева. Мог жа скульптар надзець на галаву генія капялюш ці канфедэратку, або і пасудзіну якую птушкам паставіць. Напаўняла гэта мяне амаль такой агідай, як від муміі ў маскоўскім маўзалеі.

Вярнуўшыся з Львова, рашыў я крыху пацікавіцца ўкраінскай моваю. Дзеля гэтага ўдалося мне купіць дзве кнігі на гэтай мове, якія адразу ўпёрся прачытаць. Ну і прачытаў, але так намаўчыўся, што ўжо пасля глядзеў на іх, быццам на тую мумію. Час ад часу заглядаў толькі ў „Дэкамерон”, які калісь удалося мне купіць толькі ва ўкраінскім перакладзе, але і гэта спынілася, калі паявіўся „Дамавікамэрон”, бо цяпер не ведаю, кім цікавіцца: простымі дамавікамі ці дастойнымі абатамі. Ды не адна гэта дылема паявілася ў апошнія гады. Заходзіш у краму, а там... Каб адзін толькі воцат, як пятнаццаць гадоў таму, але ж там усякая ўсячына! Калісь заходзіў у краму, ставаў у чарзе, стаяў дзве ці больш гадзін і купляў тое, што меў на картцы напісана. А калі быў эрудытам і ведаў пра яшчэ нейкі тавар, якога не было на справядлівым даведніку, і захацеў яго мець, займаў тады вечарам чаргу пад крамай, дрыжэў цэлую ноч, прысядаючы на распасцёртай на бетоне газеце, а калі ўжо краму адкрылі, пхаўся з хваляваннем: хопіць ці не. Калі не, дык наступная ноч. Et cetera. А цяпер! Крамы завалены розным барахлом. Заходзіш і не ведаеш, што выбраць. Прадавец, не тое што даўней — „выйшаў на хвіліну” — і цэлы дзень яго чакай, але ён цябе чакае, напагатове. Адразу заводзіць з табою размову і прапануе, чым крама багата. А ты чалавеча, не прывыкшы *с юных лет* да гэтага, губляешся, бы нейкі неадукаваны задрыпанец. А даўней жа было ўсё такое простае, быў чалавек эрудытам — ведаў што купіць: на картцы было напісана. Ды і ў газетах калісь пісалі так, што ўсё ясна было. А цяпер газет тых нарабілася і пра што толькі яны не пішуць — пекла нейкае! А ў тэлевізары цэлы час толькі сварацца і невядома каго слухаць. І яшчэ грошы за тое бяруць якія!

Падабаецца мне Паўночная Карэя — там ніякага інфармацыйнага разнабою; усе радыё- і тэлепрыёмнікі настроены на адзін толькі Пхеньян, каб ніхто больш не дурыў людзям у галовах. І ўвесь час і радыё, і тэлебачанне, і газеты навучаюць тамашніх слухачоў і чытачоў крыштальна сфармалізаваных ведаў. Многія з іх сталі сапраўднымі эрудытамі: усё ведаюць пра нечуваную нікчэмнасць розных ворагаў, пра геройскія подзвігі свайго правадыра, які бараніў свой дарагі народ перад імі. Найлепшыя вывучылі не толькі яго цытаты, а пэўна і цэлыя прамовы. Там нават птушкі славяць, як толькі могуць, бацьку народа. З мяне ў гэтай галіне амаль стопрацэнтны неграмацей — нешта толькі чуў пра ідэю *чучэ*, але што гэта такое, то ўжо не ведаю. Калі б нейкі тамашні эрудыт спаткаў мяне і даведаўся, што я ведаю пра нейкія Эдыты, а нічога пра *чучэ*, то ад смеху з мяне мог бы *сіку* не паспець папрасіць... Місачка рысу і лыжачка здаровай, дыетнай інфармацыі *с юных лет і ты поймёшь меня, друг, ты поймёшь.*

**Адам Маньяк**

Et cetera, etc (лац.) — і так далей.

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

## Шолах слоў

**1**

Рубіны зорак,  
як указальнікі на бясслоўі  
свецяць.  
Полымя думак  
у хаосе сказаў.  
За тванню жыцця я,  
на святла акружнасці,  
дзе гучыць паэзія,  
як залаты звон.  
З высакагор'я  
зыходзіць  
краплісты шэпт неба.

**2**

Толькі крылаў у паветры,  
аж шастае ціша,  
і ёсць момант усяго,  
і адзін жэст прыроды.  
Лічу адценні колераў  
плывучых плоскасцяў,  
голас ува мне,  
як статуева бронза.

**3**

Раскаяныя  
шэпчуць малітву дня,  
а крыж  
да грудзей прыклеіўся,  
аж чутна шолах слоў.  
На шляху  
праменна гараць свечкі,  
крыўды і прабачэнні,  
і воск чырвоны  
знікае ў зямлі.

**У Польшчы выходзіць 1500 лакальных газет**

# Са сваёй газетай — прыгожа

Беластоцкі Ваяводскі асяродак анімацыі культуры наладзіў у днях 1—11 ліпеня ў Белавежы курсы для рэдактараў і выдаўцоў лакальнай прэсы. Прынялі ў іх удзел каля двух дзесяткаў асоб з усяе Польшчы.

Штодзень праходзілі камп'ютэрныя заняткі, а таксама чыталіся лекцыі з галіны прэсавага права, маркетынгу, культуры мовы.

— Журналісты лакальных газет нараканоць, што няма ім дзе вучыцца, — сказаў Кшыштаф Асташэўскі з ВААКу, — вось таму мы арганізавалі гэтыя курсы. Немагчыма на іх навучыцца як рабіць добрую газету, але можна пабачыць тыя ці іншыя магчымасці і скарыстаць іх пазней у працы.

Удзельнікі асабліва хвалілі практычныя заняткі і сустрэчы з журналістамі беластоцкіх газет і радыё. Пры нагодзе прэзентавалі свае выданні адзін аднаму, параўноўвалі іх, дзяліліся заўвагамі і вопытам.

У Польшчы на сённяшні час выходзіць больш-менш паўтары тысячы лакальных газет. Яны вельмі розныя, ад ксерографічных адбітак тыражом у 50 паасобнікаў да салідных выданняў накладам па некалькіх тысяч экземпляраў.

— Пра велічыню і значэнне газеты не абавязкова сведчыць яе тыраж, — кажа Кшыштаф Жак з Польскай асацыяцыі лакальнай прэсы з сядзібай у Тарнаве, — я ведаю такія, што выдаюцца па 50 штук, але вакол іх гуртуецца мясцовая вярхушка. Калі там хто паскардзіцца на дарогу, абавязкова на другі дзень пачнуць яе рамантаваць.

Лакальная прэса паявілася ў пачатку 1990-х гадоў, разам з дэмакратычнымі пераменамі ў дзяржаве. З'яўляецца важным элементам актыўнасці мясцовай грамадскасці, а тым самым, працэсу пабудовы адкрытага грамадства.

— З ініцыятывай выдаваць лакальную газету найчасцей выходзяць самаўрады, — кажа Дарота Ляўчук з ВААКу, — войты і гмінныя рады лічаць, што мець сваю газету, гэта прыгожа.

Не толькі прыгожа, але і практычна. Праз яе пасрэдніцтва лягчэй трапіць да людзей, чымсьці развешваючы нейкія пастановы на слупах. Карысць у сваёй газеце бачаць таксама прадстаўнікі некаторых прафесій, напрыклад бібліятэкары ці настаўнікі, або такія асяроддзі як прыходы.

— Лакальная газета вонкава часам не розніцца ад рэгіянальнай ці нават цэнтральнай, — гаворыць Кшыштаф Жак. — Тое, што яе адрознівае, гэта іншая сетка распаўсюджвання. Прадуктовыя крамы, бензастанцыі ці нават дастаўка проста ў рукі чытача. Яна апісвае справы, якія хвалююць канкрэтную супольнасць, цэментуе яе.

Лакальныя газеты можна падзяляць і паводле вонкавага выгляду: адны — пісаныя на машыне і клееныя, астатнія — поўнасцю выйшлі з камп'ютэра. Шэсць гадоў таму дамінаваў першы тып, цяпер гэта ўжо рэдкасць (напрыклад, „Чыжоўская газета”).

З Беласточчыны ў белавежскіх курсах прынялі ўдзел прадстаўнікі Гайнаўкі, Кляшчэль і Дубровы-Беластоцкай. **(ак)**

# Своеасаблівы падарунак

**Шаноўны спадар галоўны рэдактар беластоцкай беларускай газеты „Ніва"!**

Прачытаўшы ў менскай газеце „Наша слова" (н-р 20 за 16 траўня гэтага года) артыкул Сакрата Яновіча „40 гадоў „Нівы": эпохі і пакаленні" (што стаў дакладам на канферэнцыі з нагоды юбілею газеты), хоць і са спазненнем, далучаюся да шматлікіх віншаванняў на адрас Вашай газеты і шчыра жадаю ёй, усяму калектыву рэдакцыйнай калегіі вялікага творчага плёну ў высакароднай справе захавання і ўмацавання беларускага духу і ўвогуле беларускасці ў тых беларусаў, што пражываюць на тэрыторыі Польшчы.

Улічваючы цяперашні няпэўны і несуцяшальны стан спраў на Беларусі з яе незалежнасцю (суверэнітэтам), дасылаю Вам свой верш „Беларусь не згіне!" Няхай гэты верш будзе маім сціплым, запозненым і своеасаблівым падарункам да слаўнага 40-гадовага юбілею „Нівы", гэтага сапраўднага маячка і нязгаснага агеньчыка беларускасці на Беласточчыне.

***Беларусь не згіне!***

*Найвышэйшы Суддзя свой вердыкт аб'явіў —*
*Незалежнасць тваю, Беларусь, аднавіў.*
*Эпахальнаю сталася гэта падзея,*
*Як бы шанцам апошнім, святою надзеяй.*
*Але тут жа знайшліся і сілы ліхія,*
*Іхні розум зацьміла суседка-Расія:*
*Узамен абяцаных даброт хворай нацыі*
*Балбатня чуваць толькі вакол інтэграцыі.*
*Спакушаюць даверлівых стойлам прыстойным,*
*Зусім таннаю нафтаю, газам ды пойлам...*
*Ды ачніся ж, гартуйся, народ Беларусі,*
*Захаваць Незалежнасць сваю ты ўсё ж мусіш!*
*А цяпер усе помыслы, сілы, імкненні*
*Накіруй, Беларусь, на сваё Адраджэнне.*
*Бо ад розуму, мудрасці й добрае волі*
*Узалежаны лёс твой далейшы і доля.*
*Сёння ты, Беларусь, між падобнымі, роўная —*
*Гэта праўда святая й зусім безумоўная.*
*Каб не стацца ж праклятай табе ў пакаленнях,*
*Ні прад кім ты не лазь і не стой на каленях!*
*Ты ж у цэнтры Еўропы навек прапісалася*
*Ды са станам калоніі ўжо развіталася.*
*Дык займі ж ты, мая Беларусь Незалежная,*
*На планеце адно табе месца належнае!*

* * *

*Як і наша зямля, мы — народ старажытны,*
*Па жыццёваму ўкладу зусім самабытны.*
*Няма мовы тваёй, Беларусь, мілагучней.*
*Яна сэрцу, душы Беларуса сучасная.*
*Духу Волатаў, родны край, даў ты нямала —*
*Гэта Быкаў, Пазьняк, Якуб Колас, Купала,*
*Караткевіч, Гілевіч, Шушкевіч, Грахоўскі,*
*Старавойтаў, Гастэла, Заслонаў, Ластоўскі...*
*Ефрасіння Свяцейшая, Будны, Скарына, —*
*Як духоўны наш скарб, ён ад нас не адрыне.*
*Каліноўскі, Касцюшка, Астрожскі, „Пагоня"*
*Праслаўляюць цябе, Беларусь, і сягоння.*

* * *

*Найвышэйшы Суддзя свой вердыкт аб'явіў —*
*Незалежнасць тваю, Беларусь, аднавіў.*
*І хоць мараць правесці цябе на мякіне,*
*Беларусь жа жыве і ніколі не згіне!*

***Любай „Ніве"***
*(з нагоды яе 40-годдзя)*

*Гэтак час бяжыць імклівa —*
*Сорак год табе ўжо „Ніва"!*
*З крыштальна чыстаю душой*
*Ты будзь заўсёды маладой!*
*Ды вось такой жывi далей*
*І ўжо ніколі не старэй!*
*Ды так жывi ўсім на дзіва,*
*Беларусі ж — асаблівa!*

**Алесь Ляскоўскі (Сугакі, Беларусь)**

# Пара юбілеяў

Больш 35 гадоў існуе Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавеж". Амаль усе члены гэтага аб'яднання пачыналі літаратурныя спробы на старонках адзінага тады беларускага штотыднёвіка „Ніва". А галоўны рэдактар „Нівы" Георгій Валкавыцкі з'яўляецца бацькам хрышчоным бацькам усіх, хто адважыўся пісаць па-беларуску і на беларускія тэмы.

Заслугі Г. Валкавыцкага ў гэтай справе значныя. Яго адносіны да кожнага пачаткоўца былі аднолькавыя: сардэчнае заахвочванне і прафесіянальныя парады. І гэта менавіта не аднаму дадавала адвагі і дапамагала змагацца з цяжкай матэрыяй выказвання думак у пісьмовай форме. Не ўсе пішучыя па-беларуску мелі магчымасць закончыць беларускую філалогію і падвяргнуцца адукацыйнай апрацоўцы праф. А. Барщэўскага. Для многіх з нас адзінай „школай" беларускае мовы была менавіта „Ніва", а дапамогай — вынесеныя са сваіх асяроддзяў успаміны народнай абраднасці і мова бацькоў. Не ўсе пачаткоўцы працягнулі гэтую прыгоду з пяром і паперай да нашага часу. Нямала сабралася б такіх, якія стаміліся „па дарозе" і адсталі. Некаторых шкада, пачыналі надрэнна.

Як бы гэта не было, але падыходзіць пара юбілеяў. У чэрвені адсвяткавалі мы 60 гадоў з дня нараджэння Сакрата Яновіча. І я мела гонар удзельнічаць у гэтым юбілеі. Было дастаткова важных асоб не толькі з Польшчы, але і замежных. Гэта несумненна сведчыць аб рангу юбіляра. Аднак, на маю думку, некага і не хапала. Былі людзі, якія спадарожнічалі Сакрату Яновічу ў яго творчым развіцці. Хацелася б іх бачыць, а не было іх. Можа нехта і не мог быць, а некага мо і не запрасілі.

На маю думку, нельга таксама адзяляць сцяной літаратурнага аб'яднання ад галоўнай платформы — г.зн. Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якое існуе з 1956 г. Гэта яно менавіта дало пачатак развіццю іншых, цяпер ужо самастойных, форм беларускага існавання ў Польшчы. Няхай і памяняліся там лідэры, што ёсць натуральнай з'явай у кожнай арганізацыі, аднак пры розных важнейшых падзеях варта памятаць, чым для беларускай меншасці ёсць БГКТ. Але гэта толькі такія мае прыватныя адчуванні.

Наогул ад Сакратавага юбілею асталіся прыемныя ўражанні і задавальненне, што з нашай нацыі вырастаюць людзі незвычайныя, вядомыя не толькі ў нас, але і ў шырокім свеце.

Ужо на 30-годдзе „Белавежы" напісала я: „даўно з літаратурай за панібрат жыве Сакрат". Цяпер жыве ён не толькі „з літаратурай" але і з літаратуры! А гэта ўжо вядома, не гульня але паважная справа. І гонар для нас.

Думаю, што старшыня „Белавежы" Ян Чыквін не забудзе пра наступны юбілей. Васілю Петручуку падышло 70 гадоў. Адкрываю „Пожню" і чытаю: „Нарадзіўся я ў 1926 годзе, але ніхто не ведаў у якім месяцы.., дзесьці летам. Ведаю, што калі жыву, значыць, нарадзіўся я".

Нарадзіўся ён як кветка на балоце, якую можна стаптаць, сарваць без пары, паколькі нікога яна не цікавіць. І, каб не чарада мачышыных дзяцей, быў бы ён зусім непатрэбны на свеце. Але ён, наперакор усім злым мачыхам (не ўсе мачыхі бываюць нядобрыя), перагрываў гэтае пекла і даў такі верны дакумент тае жудаснае пары, якога не змагла б даць ніякая сацыялагічная, навуковая распрацоўка. Яго біяграфічная аповесць „Пожня" з'яўляецца не толькі дакументам але і поўнасцю мастацкім творам. Прачытаўшы „Пожню", я задумвалася: няўжо могуць быць такія асяроддзі людзей, у якіх не знаходзіцца аніводнае чалавечае істоты, якая магла б звярнуць увагу на другога чалавека, дапамагчы яму, асабліва калі гэта дзіця! У гэтым жудасным свеце, дзе не існавала ніякае вышэйшае чалавечае пачуццё, жыло дзіця — чалавек з уражлівою душою і лагодным сэрцам. Але тыя злыя людзі-ваўкі не разумелі яго. Аж дзіў, што і ён сам не вырас на такога ваўка. Відаць, яго маці Ганна перадала яму ў спадчыну добры характар, уражлівасць, а магчыма і гэты самародны талент, які аб'явіўся ў дарослыя гады, а сама не хацела жыць у такім ліхім свеце. І вось маем пісьменніка-самародка. Калісь я прачытала ў „Ніве", што нейкая пані рабіла грубыя насмешкі, што быццам у „Пожні" аўтар налгаў. Калі яна не ўмее адрозніць праўды ад фікцыі, няхай займецца „арлекінамі", а не сапраўднай літаратурай.

Я жадаю Васілю Петручуку доўгага жыцця ў здароўі, сямейнага шчасця і творчага натхнення. Спадзяюся, што сёлета адсвяткуем другі юбілей „белавежца".

**Алена Аншэўская**

# Да родных ніў...

Цягне ваўка ў лес, а нас, старэчаў — туды, дзе мы нарадзіліся. А я з'явіўся на свет у Баранавічах і там жыў да лістапада 1945 г. Амаль паўвека не было ў мяне зручнага выпадку наведаць родную старонку. На радзіму завітаў я толькі ў чэрвені 1994 г.

Спатканне з краінай дзяцінства пасля 49 гадоў было вельмі чулліве. Цяпер я лепш разумею немцаў, якія прыязджаюць у Гожаў паглядзець свае куты, што былі ім такія блізкія ў час іхняга юнацтва. Тым, што жывуць у краіне свайго нараджэння, цяжка зразумець тугу перасяленцаў.

Пасля маёй першай паездкі я пачаў часцей ездзіць у Баранавічы. У верасні мінулага года я сарганізаваў экскурсію такім як і я, якія амаль 50 гадоў не былі на сваёй радзіме. Беларусі, у якой мы раслі і ад якой атрымалі многа добрага, вырашылі мы тады аказаць хаця б маленькую ўдзячнасць. Дзеля таго мы ўзялі падарункі для Беларускага чырвонага крыжа.

Спатканне ўдзельнікаў экскурсіі з краінай дзяцінства было падобнае на маю сустрэчу з радзімай у чэрвені 1994 г. Гэта натхніла мяне арганізаваць чарговую экскурсію ў гэтым годзе. Праходзіла яна з 28 чэрвеня па 9 ліпеня. Паехалі мы з падарункамі (вартасцю ў 38 млн. ст. зл.) для БЧК. Былі гэта перш за ўсё лякарствы, якіх у Беларусі не хапае (аптэкі там амаль пустыя). Перад экскурсіяй я паехаў у Баранавічы, каб усё на месцы добра падрыхтаваць. Быў я ў мясцовым аддзеле Чырвонага крыжа, дзе разведаў, якія лякарствы найбольш патрэбныя, і атрымаў пісьмовае пасведчанне, што будуць яны размяркоўвацца пад наглядам лекара. Вяртаўся я з пераканаsuccessful..., што ніякіх цяжкасцей з перавозам лякарстваў цераз граніцу не будзе.

Рэчаіснасць, аднак, аказалася больш складанай. Трымалі нас мытнікі на граніцы і пры ўездзе, і пры выездзе, хаця год таму такіх праблемаў не было. Да таго ж яшчэ старшыня Баранавіцкага аддзела Чырвонага крыжа амаль тыдзень афармляла справы з мытняй. Зразумела, што гэтыя складанасці збянтэжылі ўдзельнікаў экскурсіі і знеахвоцілі іх да далейшых паездак з гуманітарнай дапамогай. Я разумею, што лякарствы нельга перавозіць так як бананы, але хапіла б, каб лекар Чырвонага крыжа меў над імі кантроль.

Акрамя сваіх родных мясцовасцей мы наведалі таксама Мінск, Слуцк, Пінск, Ліду, Навагрудак, Мір, Нясвіж і іншыя цікавыя турысту гарады. Трэба сказаць, што Беларусь — гэта краіна, якая можа прыцягнуць турыстаў. Але справа ў тым, каб турыстаў не адпіхаць непатрэбнымі працэдурамі на мяжы. Простыя людзі ставяцца добразычліва да гасцей, запрашаюць іх, хаця і разумеюць абсурднасць склаўшайся сітуацыі. Год таму запрашалі ў Беларусь таксама і пагранічнікі. Цяпер на мяжы нешта змянілася. Здаецца, нехта забыў, што турызм прыносіць дзяржаве немалы даход. Турысты не едуць па матэрыяльныя карысці, але каб пакінуць свае грошы. Турыстаў трэба запрашаць.

**Уладыслаў Клімэк**

# Лёс такі

*(працяг са стар. 1)*

валася там спаткаць? І чаму ён пасля апынуўся пад ганкам тае хаты, дзе піў?

— Мне адзін чалавек сказаў, што тады яго сілай выкідалі з хаты, ці не качаргою, — дадаю я інфармацыю з другой рукі (майму знаёмаму гаварыў пра гэта дзядуля, якога няма ўжо ў жывых, які быццам ведаў, хто ўдарыў на ганку качаргою назойлівага і нахабнага Вакулу, каб выгнаць яго ўрэшце з хаты).

— Не ведаю. Але я не ўмела бараніцца. На *візіі* ўсё паказала, як было. На нікога не магу сказаць, многія тады хадзілі па вёсцы ноччу, то самагонкі шукалі, то так сабе. Не ўмела я ілгаць, сказала, як было, што пасварыліся мы. Пайшла я ў турму, на дзесяць гадоў, у Фордан, славуты сваёй жорсткасцю.

### Бог ведае праўду

Не турма гэта, а санаторый, папраўдзе. Сядзелі жанчыны, засуджаныя ад 5 да 25 гадоў. Тыя найдаўжэй зняволеныя — за дзецязабойства, за мужазабойства. Выдавалася ў нас газета, там падрабязна апісваліся ўсе нашы злачынствы. З кожнай гісторыі можна кнігу тоўстую напісаць. Кроў ледзянела ў жылах, калі слухала іх аповеды або чытала ў той газеце. Крывога і турма не выпрастуе. Выходзілі, зноў свае рабілі, і вярталіся. Большасць з іх кінулі сем'і, ніхто да іх не прыязджаў, не пісаў ім. У турме можна вытрымаць, калі ў чалавека ёсць надзея. Пад канец былі адкрыты сектары, можна было наведаць адны адных у камерах. Мы вырошчвалі кветкі, вешалі фіранкі, усюды чысціня. Кармілі добра, калі хто добра працаваў, меў добрую „выпіску". Я так папаўнела, што называлі мяне бабуляй. Добра адносіўся да мяне персанал, не трывожылі і турэмшчыцы. Мелі мы музычны гурт, я вельмі добра спявала, выступала, у рэпертуары мела многа беларускіх і рускіх песень. Выступалі мы з праграмамі на дзяржаўныя і іншыя святы. Працавала я ў швальні, выраблялa па 5-6 нормаў, слала грошы Сцяпану, сам жа з трыма дзецьмі астаўся. Душа ў мяне супакоілася, мела шмат часу ўсё перадумаць. Толькі трывожыла думка пра дзяцей — наймалодшую пакінула ў трэцім класе. Напісала я Сцёпу: „Не чакай мяне, мяне ж абвінавацілі ў забойстве твайго бацькі. Гэта ж 10 гадоў! Укладвай сабе неяк жыццё". Раілі яму і суседзі, каб узяў сабе каго, каб не мэнчыўся так адзінока з дзецьмі. „Не пішы такога, Ніна. Мы цябе чакаем, мы табе верым. Трымайся там ты, і вер у нас. Мы дачакаемся. Мне штоноч тата сніцца, кажа, што ты яго не забіла". Так мне Сцёпа напісаў, прыязджаў, і гэта мяне трымала пры жыцці.



*Янку Грыцуку па смерці прысвоілі ордэн Virtuti Militari.*

### „Ідзі да дзяцей!"

Прысніўся мне ў Вялікдзень сон. Як увачавідкі бачу: стаіць каля майго ложка свёкар, сцягвае з мяне плед: „Чаго ты тут ляжыш?! Уставай, ідзі да дзяцей!" Прачнулася я, сапраўды стаіць Міхалка Вакула каля майго ложка! Як не закрычу! А плед у мяне аж да ног сцягнуты. І часта мне ён сніўся. Быццам дапамагаў. І як Бог даў, прабыла я ў турме восем гадоў, і каб мне хоць раз галава забалела, каб хоць паўдня прапусціла я працу!

Найлепшыя гады, калі дзеці раслі, я страціла. Сваю маладосць, шчасце. Сцёпа чакаў. Разам пражылі мы яшчэ два гады. А ўжо шаснаццаць будзе, як я тут адна жыву на бязлюддзі. Зямлю здала. Кароўку прадам, адну буду трымаць, каб малако было, калі ўнукі прыедуць. Часта мяне наведваюць дзеці, унукі. Нікуды не хаджу. У краму ў Меляшкі аж два кіламетры будзе. Пытаюцца, ці не страшна тут адной жыць. А чаму мне страшна мае быць? Я ўжо жыццё пражыла. Адно трывога, каб дзецям было добра... Вось адзін сын і нявестка вельмі хварэюць. Дзякуй Богу, маюць падмогу ў сваіх дзецях. Моцныя ў іх характары.

**Міра Лукша**

# Радзіма — Родзіна

**Частка LIV**

Прыводжу сёння далейшыя фрагменты выказванняў пра Радзіму выдатнага эміграцыйнага даследчыка Антона Адамовіча:

„Я ўжо вам хіба сказаў, што вялікай пробай і крытэрыем будавання і разумення Радзімы былі ў Беларусі дваццатыя гады. Трэба сказаць, што не ўсе мы зразумелі фарысейскую крывадушнасць тагачасных савецкіх уладаў, якія аб'явілі так званую беларусізацыю, гэта значыць далі пачатак працэсу беларускага нацыянальнага адраджэння і спробе стварэння беларускай дзяржавы, зразумела ў рамках СССР. Трэба сказаць, што Масква ашукала не толькі нас, значыць, беларускую інтэлігенцыю але і беларускіх камуністаў, якія паверылі, што ў БССР ёсць месца для нацыянальнага камунізму. Памыліліся мы ўсе. Сёння можам з упэўненасцю сказаць, што Масква аб'явіла праграму нацыянальнага адраджэння ўсіх народаў, якія ўвайшлі ў склад СССР не таму, што прагнула сапраўднай роўнасці ўсіх савецкіх нацый, а толькі з той мэтай, каб тады, калі праявяцца ўсе нацыянальныя сілы ў рэспубліках і калі стане ясным хто ёсць хто, можна будзе з карэннем знішчыць назаўсёды гэтыя нацыянальныя сілы. І так яно сапраўды і сталася. Руска-савецкая Масква прадоўжыла надзвычай эфектна рускую імперыяльна-царскую Маскву і расправілася з нацыянальнымі рукамі ў рэспубліках, у тым ліку і ў Беларусі. Згінулі беларускія камуністы тыпу Ігнатоўскага, Галадзеда, Чарвякова, Гартнага, а пры гэтым згінулі таксама ўсе тыя беларусы, якія не былі староннікамі камунізму і стаялі на чыста нацыянальным грунце. Тут не буду называць прозвішчаў. Справа, бачыце, у тым, што было нас вельмі многа і нельга нас спісаць, як гэта гаворыцца, нават на валовай скуры. Так, заплацілі мы страшэнную цану за сваю любоў, прывязанасць і веру ў ідэю вольнае Беларускае Радзімы.

Усё пачалося ўжо ў 1929—1930 гадах, калі аказалася, што беларусізацыя дала надзвычай добрыя вынікі, калі мільёны рускамоўных, польскамоўных і габрэямоўных людзей загаварылі па-беларуску, калі дзяржаўнае беларускае будаўніцтва давала надзвычай пазітыўныя эфекты. Масква дайшла да вываду, што далей чакаць нельга і трэба прымяніць такі тэрор, які раз і назаўсёды вырашыць праблему. Быў гэта свайго роду савецка-рускі галакост, а можа лепш сказаць, злачынны генацыд. І таму, бачыце, трэба сказаць, што гэта Гітлер быў вучнем у Сталіна, а не наадварот. Масавае нішчэнне нацыянальных грамадстваў распачаў Сталін і пасля ад яго навучыўся рабіць гэта Гітлер. Трэба сказаць, што Сталін абраў вельмі эфектную формулу нішчэння нацыянальных сілаў у СССР і сілаў беларускіх. Метады былі ў Сталіна два. Першы зводзіўся да дзеяння: у лоб і ў яму, а другі: высылка ў далёкую Сібір з той мэтай, каб мучанікі перад смерцю рабскай працай узбагацілі савецкую сістэму.

Вось так я, былы савецкі катаржнік, разумею гэту справу і думаю, што амаль кожны беларус, які папаў у Сібір, падобным чынам успрымаў, а калі жыве дык і сёння ўспрымае гэту страшэнную з'яву. Бяда ў тым, што толькі нямногія з засуджаных выратавалі свае жыццё.

Ну, але вы пытаеце пра Радзіму, дык вам скажу, што якраз тады, калі мы пападалі ў лагеры ці ў турмы, і калі ўсведамлялі сабе, што за дратамі і сценамі няма беларускай зямлі і няма беларускага народа, а толькі бязмежная Расея і Расея, толькі тады апаноўвала нас роспач і бязмерная любоў да народа, да Радзімы. У такой сітуацыі чалавек пачынае бязмежна любіць і кахаць родную прыроду і родныя мястэчкі, гарады і вёскі, і родных людзей, незалежна ад таго, хто яны, каб толькі былі беларусамі, каб мелі ў сабе нейкую часцінку роднага краю, вялікай Радзімы. Калі чалавек хадзіў свабодна па Менску, калі наведваў беларускія вёскі і мястэчкі, дык многае яму ў іх не падабалася. Але калі пападаў за дрот ці за краты ў акне, тысячы кіламетраў ад Радзімы, тады яна імгненна прыгажэла і рабілася тым цудам, які грэе чалавечае сэрца і душу".

**Алесь Барскі**

**Васіль Сакоўскі**

# Змінулага маёй сям'і, вёскі, мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

І яшчэ адна дзялянка, бо што гэта за мясцовасць, з якой не звязана ніякая легенда пра скарб?

Быў у маёй мясцовасці свой скарб, а можа і яшчэ ёсць. І не з легенды, а самы сапраўдны, таямнічы і залаты. Але па-парадку.

Крайняй хатай і „сердзібай" ад вёскі Лішчыны і вясковай пашы была і ёсць сядзіба Федарукоў. У той далёкі царскі час гэты род не называўся яшчэ Федарукамі, а Шараламі. Прозвішча Шарала аднак чамусьці выдалася маім продкам-аднавяскоўцам надта смешным і яны пачалі падсмейвацца з яго, а Шаралы — абражацца за гэта. Толькі таго і трэба было сяльчанам. За справу ўзяліся вясковыя самадзейнікі і пасыпаліся вершы-песні тыпу: „Шаралo-маралo кобылі п... абмаралo..."

Так прозвішча стала аднačасна і мянушкай. Ну, часцей усяго пачалі не называць, а празываць гэтую сям'ю. І ўсё таму, што сям'я вельмі крыўдзілася за гэта.

Вечарам, напрыклад, калі ўжо нельга было пазнаць чалавека, падыходзіў такі жартаўнік пад акно іх хаты і афіцыйным службовым голасам пытаў: „Здесь живёт Кондрат Шарало?" А адтуль у адказ яму нясліся праклёны: „А каб табе ў грудзях шарыла, а каб ты пад хмарамі лётаў і сонца не бачыў..." і гэтак далей, і таму падобна. Кандрат хапаў таксама за кланіцу і пёр за жартаўнікамі.

Адным словам, Шаралам ад прозвішча адна толькі бяда і згрызота, а жартаўнікам і вёсцы штораз свежая пацеха. І так дапяклі гэтым прозвішчам-мянушкай, што бедныя Шаралы замянілі яго на Федарук. Так прапала з вёскі, па-мойму, прыгожае прозвішча Шарала, а павілася новае — Федарук. Нічога, канешне, гэтая змена не дала, бо толькі афіцыйна яны былі Федарукамі, а неафіцыйна надалей аставаліся тымі ж Шараламі...

Дык вось, ад стадолы Шаралаў-Федарукоў, да старога рэчышча Локніцы метраў тут 60. Рэчка ў гэтым месцы была глыбокая, а левы бераг і бок яе высокі. Калісьці, яшчэ да бежанства, стаяў тут вадзяны млын аднаго нашага жыхара, але ён сам згарэў ці яго спалілі, бо калі былі заложаны застаўкі, вада залівала сялянскія агароды. І гэта не падабалася сялянам.

Большую частку гэтай плошчы займае вялікая круглая і неглыбокая яміна. І называецца гэтае месца — ямкі. Яміна ці ямкі пявіліся там ад таго, што калісьці бралі там сяляне пясок — як на ўласныя патрэбы, так і на рамонт дарог.

У час аднаго такога капання селянін Макар раптам закрычаў: „Хлопцы, хадзіэтэ сюды, я штось нашоў!"

Хлопцы паслушна збегліся і ўбачылі, што Макаровай знаходкай была нейкая дзіўная, моцна пацвіўшая медзяная пасудзіна. Калі разбілі яе лапатаю, павысыпалі адтуль кусочкі нейкага бліскучага металу, а мужыкі, шырока развявўшы ад здзіўлення раты, пачалі разглядаць яго ды піхаць паціхоньку Макарову знаходку ва ўласныя кішэні. Панабіралі многія, а потым насілі па вёсцы, усім паказвалі, у кузні кляпалі, расцягвалі, у агонь саджалі — так грунтоўна тэставалі незнаёмы ім метал. Са здзіўленнем расказвалі потым пра незвычайныя якасці яго: калі трымалі над агнём у лыжцы, ён дзесьці незаўважальна знікаў з лыжкі. Значыць, па-іхняму, або ўлазіў у матэрыял, з якога зроблена лыжка, або пралазіў праз яго і кудысьці незаўважальна знікаў. Думаю аднак, што далёка не ўсе былі аж такія несвядомыя вартасці знаходкі.

Хутка высветлілася, што Макарова знаходка — гэта ўнікальны ў сэнсе гістарычнай вартасці і матэрыяльнай каштоўнасці скарб. Бліскучыя металічныя кусочкі былі фрагментамі нейкай цэласці, падобна кароны, зробленай са шчыгра золата, не вядома кім і калі, але напэўна даўным-даўно там схаваных.

Вестка пра скарб нейкім цудам дайшла аж да Пецярбурга і так заінтрыгавала сталічных вучоных, што яны накіравалі ў нашу вёску навуковую экспедыцыю. Вучоныя прыехалі, хадзілі па хатах і выкуплялі паасобныя часткі скарбу, складаючы іх у цэласць. Усіх аднак частак выкупіць ім не ўдалося. Народ, даведаўшыся, што трапіла ў іх рукі, не хацеў цяпер раставацца з ім ці тэставаць яго ў кузні.

Экспедыцыя прабавала таксама крыху весці раскопкі, але золата, падобна, больш не найшлі, а толькі накапалі розных старых чарапкоў.

З выкупленым пілітаскаўскім скарбам і чарапкамі вучоныя ад'ехалі ў сталіцу і там знаходку перадалі ў музей, дзе яна падобна і да сёння знаходзіцца. А месца знойдзенага скарбу было занесена ў рэестр будучых грунтоўных раскопак.

Хутка потым разбушаваліся войны, рэвалюцыі і было ўжо не да раскопак. І так аж да сённяшня, бо ўжо ўсе забыліся пра наш скарб.

Мой дзед, а як жа, таксама дабег да скарбу і некалькі кусочкаў прыхапіў. Потым прадаў іх за добрыя грошы, і быў моцна задаволены. А чаму б, здаецца, не аставіць гэтага залацішка для ўнука?!.

Былі ж такія, якія сваёй часткі скарбу так і не прадалі ні рускай навуковай экспедыцыі, ні потым, а захавалі золата для дзяцей і ўнукаў. Хаця, праўду кажучы, ёсць прыклады на тое, што і яны, іх дзеці і ўнукі таксама не заўсёды на гэтым добра выйшлі.

*(працяг будзе)*

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**4 жніўня**

1704 г. — брытанскі флот заняў Гібралтар.

1859 г. — нар. Кнут Хамсун, нарвежскі пісьменнік.

1875 г. — памёр Ханс Крысціян Андэрсен, датскі пісьменнік.

1914 г. — парушэнне нейтралітэту Бельгіі вызвала ўступленне Вялікабрытаніі ў I сусветную вайну. ЗША заявілі аб сваім нейтралітэце.

1917 г. — нарадзіўся пісьменнік Янка Брыль.

1962 г. — памерла Мэрлін Манро, амерыканская актрыса.

1964 г. — паўночнав'етнамскія патрульныя лодкі абстралялі амерыканскія ваенныя судны, што стала зачэпкай для вайны ў В'етнаме.

**5 жніўня**

1772 г. — Прусія, Аўстрыя і Расея падпісалі ў Пецярбургу дагавор — першы падзел Рэчы Паспалітай.

1895 г. — памёр Фрыдрых Энгельс, нямецкі філосаф.

1901 г. — ірландзец Пітэр О'Конар скочыў на адлегласць 7,61 метра. Гэта першы афіцыйна зарэгістраваны рэкорд свету па лёгкаатлетыцы.

1941 г. — пасля трохтыднёвай бітвы нямецкія войскі перамаглі савецкія фарміраванні пад Смаленскам і ўзялі ў палон 310 тысяч чырвонаармейцаў.

1963 г. — СССР, ЗША і Вялікабрытанія падпісалі ў Маскве дагавор, у сілу якога стрымоўвалі атамныя выпрабаванні ў атмасферы, космасе і вадзе.

**6 жніўня**

1517 г. — у Празе выйшла з друку першая кніга Францыска Скарыны „Псалтыр"

1660 г. — памёр Дыега Веласкес, іспанскі мастак.

1791 г. — адкрыццё Брандэнбургскіх варот у Берліне.

1881 г. — нар. Аляксандр Флемінг, англійскі бактэрыёлаг, адкрывальнік пеніцыліну.

1940 г. — Літва аб'яўлена савецкай рэспублікай.

1945 г. — амерыканская авіяцыя скінула першую атамную бомбу на Хірасіму ў Японіі.

1961 г. — другі савецкі касманаўт Герман Цітоў за 25 гадзін і 11 мінут зрабіў 17 віткоў вакол Зямлі.

1966 г. — адкрыццё найдаўжэйшага вісячага моста ў Еўропе, даўжынёю 2277 метраў у Лісабоне, злучаючага два берагі эстуарыя Тэжу.

**7 жніўня**

1921 г. — памёр Аляксандр Блок, расейскі паэт.

1995 г. — памёр Максім Танк.

**8 жніўня**

1945 г. — СССР аб'явіў вайну Японіі.

1968 г. — Рэспубліканская партыя ЗША назначыла Рычарда Ніксана сваім кандыдатам на пост прэзідэнта.

1974 г. — прэзідэнт ЗША Рычард Ніксан падаўся ў адстаўку ў сувязі з аферай Уотэргейт.

**9 жніўня**

378 г. — у бітве пад Адрыянопалем остготы перамаглі войскі рымскага кесара Валенса.

1910 г. — нарадзілася паэтэса Ларыса Геніюш.

1945 г. — амерыканскі бамбардзіроўшчык скінуў атамную бомбу на японскі горад Нагасакі.

1974 г. — папа Павел VI выдаў энцыкліку *Ecclesiam suam*, у якой выказаўся за дыялог з некатолікамі.

1976 г. — памёр пісьменнік Іван Мележ.

**(Ш)**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Сніцца мне такі сон. Я ў Гайнаўцы, у ліцэі, але гэта не школа, у якой я вучылася, і стаіць яна ў іншым месцы — насупраць аўтобуснага вакзала. Я ў гадах цяперашніх, але і сама не ведаю, можа яшчэ вучуся там? Не магу цяпер акрэсліць узросту, у якім я была ў сне. А можа я ўжо працую? Я чагосьці шукаю ў школе, хаджу, але не магу знайсці, таму што ў гэтым ліцэі ўсё змянілася: усе класы-майстэрні ў іншых месцах. У маіх руках нейкія торбачкі, можа з пакупкамі, а можа з маім дабыткам. Можа я шукаю кватэру? Няма ў школе ні знаёмых настаўнікаў, ні знаёмых вучняў. Заходжу я ў біялагічны клас і пачынаю там прыбіраць: перастаўляю кветкі, перасаджваю, выкідаю сухое лісце, некаторыя гаршкі выношу на калідор. У мяне брудныя (у сухім пяску) рукі, але я задаволеная. Я не маю часу, і гэта мяне непакоіць, таму, што хачу кончыць парадкаваць вазоны. Гляджу, што мне пара ўжо ісці. Не памятаю, куды мне трэба было накіравацца, але ў цэлым сне трывожыла мяне нешта. Горад быў мне незнаёмы, хаця знаёмы. Я не магу ўспомніць (цяпер, і ў сне таксама, здаецца), ці я ехала кудысьці далей і хацела пераначаваць, ці прыехала сюды спецыяльна, на нейкую сустрэчу з сябрамі (з'езд выпускнікоў?)

Гэты сон мне сніцца больш-менш раз у паўгода. Можа падобнае здарыцца? Мне калісьці сніўся сон аб чужым горадзе, дзе я заблудзілася, які паўтараўся мне вельмі часта, пакуль не апынулася я ў такіх жа абставінах і ў тым горадзе, які мне сніўся (дакладна, кропка ў кропку!!!), і ён перастаў сніцца!

**ВЕРАНІКА**

Вераніка! Я думаю, што перш за ўсё твае пошукі давядуць цябе да акрэсленай мэты, тым больш, што трапіла ты ў біялагічны кабінет, дзе вырашыла зрабіць парадак з кветкамі. Ты была задаволеная сваёй работай, хаця рукі былі ў пяску.

А мо калі і трапіш у той горад і тую школу, што снілася табе...

**АСТРОН**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| 4638. „Бязмежжа" — літаратурныя сустрэчы | — | 100 зл. |
| 4639. Аляксандра і Ян Пракапюкі (Варшава) | — | 20 зл. |
| 4640. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) | — | 100 зл. |
| 4641. Андрэй Волчак (Ляска) | — | 20 зл. |
| 4642. Ежы Дамрош (Седльцы) | — | 10 зл. |
| 4643. Уладзіслаў Завадскі (Гайнаўка) | — | 10 зл. |
| 4644. Ахвяраванні ўдзельнікаў Купалля ў Белавежы | — | 326,32 зл. |
| 4645. Давід Раманчук (Таронта, Канада) | — | 100 дол. ЗША |

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

## Зямля мілая і вялікая

Зямля вялікая,
Мудрая, не дзікая.
Бог яе стварыў
І жыццё дарыў,
Каб яе любілі
І ў трывогу білі;
Хто яе калечыць —
Гэта трэба лечыць.
Тут усе *кладавыя*,
Глебы *пладавыя*,
Горы і лясы —
Розныя паясы.
На зямлі ўсё ёсць;
І зямелькі лёс —
Ён ад нас залежыць,
Калі будзем верыць,
Не вясці вайны
І біць у званы,
Шанаваць прыроду
Ў кожную *пагоду*.
Толькі тут жыццё
І вечнае быццё.
У космасе адзіная,
Залатая, мілая;
Больш такой няма —
Гэта не мана.
У Біблії мы знойдзем,
Вернай сцежкай пойдзем.
А моры, акіяны —
Не наносяць ранаў
Рознымі смуродамі
І ўрэднымі народамі.
Тут жыццё бурліць,
Рыбы хочуць жыць
І цэлы *водны* свет,
Што жыве ад *лет*.
Гэта мільёны...
Трэба даць паклоны,
Хто стварыў зямельку,
Даўшы сваю мерку.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

# Свой гонар

Нядаўна ішоў я сабе памаленьку па Гайнаўцы, а насупраць мяне тэпаў нейкі дзядзька, ні то стары, ні то малады. Такі ўзрост часта бывае ў людзей, што не раз заглядаюць у чарку і заканserваваліся алкаголем. Але не п'яны ён быў, толькі з твару цёмны, амаль карычневы, з чырванаватым, бы аблупленым, носам. Маё дасведчанае вока адрозніць загар, якога чалавек набіраецца ад ветру і сонца ў полі, на лузе ці на будове, ад „апалянізны", якая выходзіць чалавеку навонкі са спечаных гарэлкаю вантробаў і мазгоў. Дзядзька быў апрануты досыць „па-мястоваму" — у шэрыя нагавіцы з малавыразнымі „кантамі" ад аднаго касцюма і пінжак, званы ў нас папулярна „летнікам", ад іншага, цямнейшага, але цяжка акрэсліць якога, колеру. У руцэ грамадзянін трымаў няпоўны цэлафанавы кулёк з навагоднімі малюнкамі. Цяжка сказаць, адкуль быў той чалавек — ці з Гайнаўкі, ці з ваколіц (мы знаходзіліся недалёка гайнаўскага аўтобуснага „вакзала"), але мяне гэтая справа зусім не турбавала б, калі б той спадар мяне не зачапіў па-польску:

— Пазычце, калі ласка, мне „дыху".

— А калі вы мне яе аддасце? — вырачыўся я на яго ад нечаканасці: не ведаю ж чалавека, а сто старых тысяч гэта і цяпер не такі малы грош.

— А ці я вам кажу, што яе аддам?! — не менш за мяне здзівіўся чалавек і перакінуў торбу з правай рукі ў левую, выразна рыхтуючы сваю правую далонь пакарыстацца з вядомай мэтай — браць.

— То чаму кажаце „пазычце", а не „дайце"? Гэта ж было б больш зразумела.

— Але я кажу „пазычце", як вы чулі, бо я свой гонар маю.

На такое *dictum* мне не асталося нічога, як расшпіліць свой кашалёк і „пазычыць" тую „дыху" такому „ганароваму" грамадзяніну. Дзядзька ўсадзіў паперку ў сваю кішэнь, пацiснуў мне далонь і накіраваў свой малінавы штурвал у бок бару. А я, стары дурань, яшчэ доўга стаяў бы на месцы і думаў пра чалавечую сумленнасць, калі б не пад'ехаў мой аўтобус. Вядома, улез я ў салон апошнім. І хоць адна дзеўка запрапанавала мне сваё нагрэтае месца, я спачатку адмовіўся. Гэта ж першы раз у маім жыцці, калі мне хтосьці запрапанаваў сесці, тым больш дама! Ой-ё-ёй!..

**Вандал АРЛЯНСКІ**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. літаратурны жанр, 4. напр. Аляксандр Лукашэнка, 6. перыядычны друк, 7. ступень жыццядзейнасці арганізма або асобных тканак, 9. рака ў Сібіры, над ёй Верхаянск, 11. высокамалекулярнае арганічнае рэчыва, 12. вясельны пірог, 13. падарунак, 15. паўднёвае дрэва, род дробнай слівы, 17. пладовае дрэва, 18. сталіца Дагестана, 19. нешта незвычайнае.

**Вертыкальна:** 1. стрэльбішча, 2. расліна з цвёрдым ствалом, 3. прыхільнік вучэння, ідэі, 4. орган, які кіруе сходамі, 5. возера ў Афрыцы, 6. сталіца Чэхіі, 8. шырокая гаваровая вядомасць, 9. англійская мера даўжыні, 10. зямельная мера ў Англіі, 14. збірае або скуплівае анучы, 16. адбыццё, адпраўленне, 17. гара з крутымі схіламі. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 24 н-ра:**

**Гарызантальна:** юшка, Быхаў, лебяда, кнот, Сураж, аполак, Бабруйск, пазур, падхалім, Тамерлан, лінія, экспанат, лёскат, галяк, Руан, какаду, білет, крыж.

**Вертыкальна:** цыкута, марабу, шантрапа, Алтай, аброк, адказ, жарарака, псіхолаг, пута, зіма, план, змяя, Андаманы, Італія, Івянец, Нёман, экран, струк.


Ніва

**„Niwa"**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. pocz. 149, tel./fax 421-033.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міраковіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

# Эпіграмы з антыподаў

**Адаздымкі**

Ада Васілячачугава
ўсіх так расчульвае.
Арлінае яе вока
бачыць блізка і далёка,
і шырока, і глыбока.
У кожным нумары газеты
разглядаем Ады здымкі.
А ці плацяць ёй за гэта
добра, ці мае недаімкі?

**Сымон Шаўцоў**
**Аўстралія**

## З падслуханага

Сватаецца хлопец да дзяўчыны:

— Ідзі за мяне замуж, жыццё будзе добрае і лёгкае: не будзеш хадзіць ні ў клець, ні ў павець. Дый у склеп лазіць не трэба. У мяне ўсё на кручку.

Пасля вяселля жонка пытае:

— Ну, што будзем есці?

— А вунь на кручку торба вісіць, схадзі ў краму.

**М. Кавалькоў**

# Ніўка

Serdecznie pozdrawiam! U mnie wszystko okej. Chcą mnie zrobić:
- ministrem
- pipszoterem
- pijakiem
- ------

*wszelkie prawa zastrzeżone

Kuta

500 zł POLSKA
3500 zł

Pani/Pan
„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950
Białystok
POLSKA-EUROPA

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Аперацыя ўдалася, — інфармуе хірург пацыента, які толькі што абудзіўся з-пад наркозу. — Зусім непатрэбна вы нерваваліся: выразаў што трэба і клопатам канец...

— Клопаты толькі пачнуцца цяпер: вам і мне, бо я сюды прыйшоў каб направіць працякаючы кран.

* * *

Малады мужчына прыйшоў да лекара:

— Пан доктар, што рабіць? Калі адведваю маю нарачоную, вочы ёй гараць, вусны дрыжаць, калені ўгінаюцца...

— У яе, пэўна, тыф.

* * *

Дзве лекаркі папіваюць каву ў кабінеце:

— Усе гавораць, што час — найлепшы лекар, але як прыйдзецца ім хвілінку пачакаць, дык зараз нервуюцца.

* * *

Прафесар да студэнта:

— На маёй лекцыі не можаце спаць!

— Я думаю, пан прафесар, што калі б вы гаварылі цішэй — мог бы.

* * *

Уміраючая жонка апошнімі сіламі звяртаецца да мужа:

— Ужо ўміраю, дык хацела б табе прызнацца, што здрадзіла цябе з Васем.

— Ведаю; ён дастаў тую самую атруту, што і ты.

* * *

Госць расказвае гаспадыні:

— Помню, што Напалеон ішоў на Расею ў 1812 годзе...

— Калі?

— У 1812 годзе.

— Божа мой! То вы яшчэ гэта памятаеце...

* * *

Бацька прылапаў сына з дзяўчынаю ў ложку:

— Паводзь сябе дома прыстойна, — дакарае.

— Мы, маладыя, сёння робім у прыватных дамах публічна тое, што вы калісь у публічных дамах прыватна.

* * *

— У мінулую нядзелю я паляваў з Юркам; ён нічога не ўпаляваў...

— А табе пэўна пашчасцілася?

— А так: забіў яго сабаку.

* * *

Паляўнічы апавядае ўражанні ад палявання. Раптам адзін са слухачоў пытае:

— А застрэліў ты хаця б аднаго зайца?

— Гэта то не, але аднаго дык смяротна пералякаў.

* * *

— Як табе пашанцавала на апошнім паляванні?

— А дзякую; нічога сабе...

— Колькі дзікаў застрэліў?

— На шчасце не сустрэў ніводнага.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Прывітанне Сэрцайка. Абавязкова надрукуй у сваёй рубрыцы гэты ліст. Паўтараю і падкрэсліваю: абавязкова! Чытаць „Ніву" мяне заўжды прымушвалі на ўроках беларускай мовы ў школе. Гэта ўсім нам сапраўдная пакута. Мае сябры — пераважна невукі і гультаі да гэтага прадмета — чытаюць перад усім „Зорачку". (А ведаеш чаму? Бо там самыя кароткія тэксты друкуюцца.) Пасля ўрока газета ідзе ў смецце. І я так раблю, нечага затойваць, але я, па-за абавязковым чытаннем, заўсёды ныне тваю рубрыку перачытваю. Не ведала я толькі, што вось і мне давядзецца сюды напісаць. А падштурхнула мяне да гэтага не гора і не трагічнае каханне, і не гвалтоўнае вычварэнства, пра якія часта пішаш, Сэрцайка, а перажыванне цалкам іншага характару — я б сказала, што падзея метафізічная.

Завуць мяне... хай будзе, што Анжэліка, і ў гэтым годзе я закончыла трэці клас ліцэя. Ужо ад нейкіх двух гадоў хацелася паехаць на маладзёжны фестываль у Гарадку. Я неаднойчы чула ад старэйшых сяброваў пра цікавыя знаёмствы, якія яны там пазаводзілі. Мабыць і ў мяне было некаторае спадзяванне на штосьці падобнае. Ну, дамовілася яшчэ з адной, узялі палатку, спальныя мяшочкі і паехалі...

У цікавым знаёмстве я моцна засумнявалася ўжо ў самім пачатку. Народу было шмат, але, ці гэта толькі ў мяне такое ўражанне, усе хлопцы-аднагодкі паапіваліся півам яшчэ да канцэртаў. Яны, нібы тыя самалёты, кружлялі па фестывальным урочышчы, не ведаючы, як на бяду, сваёй канчатковай мэты. Я не праціўнік піва і таму, доўга не думаючы, я таксама махнула з сяброўкай па... кубачкі два. Ляскат, енк і кайф ад трэшу, дагэтуль абсалютна невыносныя, як бы суцішыліся, сталі больш па вуху. Сяброўка вырашыла, што нам трэба яшчэ па адным і мы цалкам прыемна правядзем свой час тут. Яна адправілася, а я прымасцілася пад адным дрэвам, збоч рэйсаў фестывальных самалётаў. На двары ўжо добра сцямнела, на сцэну пачалі выходзіць зоркі. Я сама для сябе заключыла, што гарадоцкі фестываль — дужа лепшая справа за п'янае дыска-пола...

Ён з'явіўся ціха і нечакана. У яго, як і ва ўсіх аматараў металу, былі доўгія валасы. Імі, я бачыла гэта на MTV, фанаты ў час канцэртнай ачадзеласці крэсляць у паветры колы. Усе ў адзін такт. Ён культурна запытаў і падсеўся да мяне, кажучы пры гэтым, што ведае адзін выдатны гурт, які зараз тут выступіць. Я пацікавілася, што за адзін. Ён толькі таямніча ўсміхнуўся, але так і не назваў сваіх улюбёнцаў. Дыялог наш быў абмежаваны — размаўляць можна было толькі ў перапынках паміж песнямі, хаця ў жываце ўжо як бы не буркатала ад глуму, што зыходзіў са сцэны. Калі я ўрэшце задумалася, дзе гэта прапала мая сяброўка з півам, ён мяне абняў і мы паваліліся на зямлю. У галаве закружылася. Не ведаю, ці ад алкаголю, ці ад усёй гэтай нечаканасці, ці можа ад таго, што співак на сцэне заявіў „Я зараз навучу вас аднаго слова — шызафрэнія!" Саліст паўтарыў яго некалькі разоў. Па зямлі прайшла электрычнасць і, я гэта адчула, усе і ўсё навокал набухла ад напругі. Мы шапталі да сябе пяшчотныя словы, а співак толькі юрліва закружыў клубамі і стаў на ўсю магутнасць апаратуры прапаведаваць шызафрэнію. Я быццам узнялася і стала плысці. А співак натхнёна кружляў па сцэне і цалкам не нагадваў самалёта, а хутчэй сексуальнага монстра. Калі ён закружыў чупрынай, якой не меў, я адплыла ў невыказную палёгку і забылася на ўвесь свет. Гэта выглядала быццам шызафрэнія ўсяго свету засяродзілася ў ягонай асобе...

„Басовішча–95".

Дарагое Сэрцайка, нават цяпер, калі пішу гэтыя словы, я не ведаю, ці гэнага вечара я здзейсніла *тое*, ці можа крыніцай маёй насалоды была музыка на маладзёжным фестывалі ў Гарадку. Не ведаю таксама, як называецца той гурт. Хацелася мне толькі сказаць, што з прыемнасцю ў жыцці бывае па-рознаму. Часамі прыходзіць яна да нас у самыя нечаканыя моманты... Вось і ўсё, а друкаваць, ці не — вырашы сама. Яшчэ раз маё прывітанне Табе.

**Анжэліка**

**Сяргей Лебедзь**

# У лекара

... Папрашу вас, таварыш лекар, выслухаць маю асабістую драму з усёй магчымай увагай і найбольшай спагадай. Недарма ж я сюды тры гадзіны вашага рабочага часу адстаяў... Спачатку назаву сваё прозвішча. Цагляны Луўр Пятровіч. З прафесіяй у мяне таксама ўсё нібыта добра — брыгадзірам на будоўлі працую. Брыгада ў нас — ого-го! Дзевяць чалавек — і ўсе сумежнікі. Чацвёра работу з „казлом" спалучаюць. Двое — з медвыцвярэзнікам. А яшчэ дваіх ніхто наогул не бачыў. Кажуць, яны ў клубе на вечарах культуры без адпачынку на баянах граюць...

І да гэтага самага фантана я быў маральна стойкі, як тая пізанская вежа. А тут наш прараб прычапіўся:

— Выручай, Пятровіч! Нам для справаздачы не фантан — шэдэўр усіх мастацтваў патрэбны! Заўтра і пачнеш будаваць!

— Што я вам, — пытаюся, — Растрэлі-Батычэлі якісьці? Што-небудзь прасцейшае загадайце! Траншэю на вуліцы напрыклад, вырыць можам. Не тое, што транспарт не пройдзе — наўрад ці якая птушка да сярэдзіны даляціць!

А ён сваё:

— Не скромнічай, Пятровіч! Вы ж арол! З агеньчыкам працуеце — калі не прыйдзеш, усё ў вас перакур...

Ну, калі трэба, то трэба! За тыдзень катлаван з падвойным дном вырылі. Сам фантан спяршa мармурам, а пасля цэглай абклалі. Каб, часам, хто мармур не папсаваў. У цэнтры, як водзіцца, русалку пасадзілі. Зялёную і тоўстую. Бюст на паўтоны. Праўда, тая русалка з выгляду трохі сумная атрымалася. Ну, вылітая наша буфетчыца Люська, калі да яе ў латок піва не завязуць.

Ля фантана лавачку для закаханых паставілі. На пяцьдзесят пасадачных месцаў. Усё прадугледзелі. На ўсялякі выпадак нават прычапілі плакат двухметровы супраць браканьерскага адлову рыбы з фантана...

Між іншым, калі разабрацца, з плакатам мы паспяшылі трохі. Рыба наўрад ці тут завядзецца. Таму што няма вады. Ды і адкуль той вадзе ўзяцца, калі мы ў мітусні забыліся праклаcці трубы?

— Што ж цяпер будзе?! — пытаюся ў прараба.

А ён адмахваецца.

— Дробязь, — кажа. — Галоўнае, каб можна было паказаць людзям. А камісія ўсё роўна ў фантане купацца не будзе. І потым — не ламаць жа ўсю гэтую прыгажосць з-за асобных недаробак!..

Ну, прарабу лепш відаць.

А мне, таварыш лекар, тая тоўстая русалка з фантана па начах здавацца пачала. Прыходзіць яна ў поўнач у маю кватэру, як да сябе дамоў. Заходзіць у ванны пакой, напаўняе ванну і сядзіць там да раніцы...

— Я цябе, — кажа, — бракароб, за гэты сухапаветраны фантан па ўсіх інстанцыях зацягаю!

Тройчы ўжо я, таварыш лекар, на фантан з рыдлёўкай кідаўся. Двойчы каўшом экскаватара біў... Але дзе там! І драпінкі не засталося. Стаіць праклятая на радасць прарабу!..

Што хочаце са мной рабіце. Толькі дапамажыце, таварыш лекар!

Па-сапраўднаму. Не для камісій...

*Пераклад з украінскай*
*Валерыя Бабея*